# Таварыш, сьпяшай падпісацца на усе выданьні выдавецтва „Калгасьнік Беларусі“!

## „Калгасьнік Беларусі“

**Усебеларускую калгасна-сялянскую газэту**

**Умовы падпіскі:**

На 3 мес. . . . . 60 кап.
„ 6 „ . . . . 1 р. 20 „
„ 1 „ . . . . 2 „ 40 „

## „Шляхі Калектывізацыі“

**орган Наркамзему і Калгасцэнтру БССР**

**Умовы падпіскі:**

На 1 год — 24 нумары 3 р.
„ 6 м-цаў — 12 „ 1 р. 50 кап.
„ 3 „ — 6 „ — 75 „
„ 1 „ — 2 „ — 25 „

## „Паляўнічы Беларусі“

**орган Прамыслова-Каапэрацыйнага Саюзу Паляўнічых „Белкахотсаюзу“**

**Умовы падпіскі:**

На 1 год — 12 нумароў — 2 р. 40 к.
„ 6 м-цаў — 6 „ — 1 „ 20 „
„ 3 м-цы — 3 „ — 60 „

На меншы тэрмін падпіска ня прымаецца.

Штомесячн. літ.-мастацкую і грамадзка-палітычную часопісь

## „Беларусь Калгасная“

**орган аб'яднаньня Пралетарска-калгасных пісьменьнікаў БССР**

У часопісі друкуюцца апавяданьні, аповесьці, вершы, нарысы, бібліяграфічны аддзел, крытычныя артыкулы, а таксама артыкулы на грамадзка-палітычныя тэмы.

У часопісі прымаюць удзел усе пісьменьнікі БССР і ўдарнікі, закліканыя ў літаратуру.

**Умовы падпіскі:**

На 1 год — 12 нумароў — 3 р. 60 к.
„ 6 м-цаў — 6 „ — 1 „ 80 „
„ 3 м-цы — 3 „ — 90 „
„ 1 м-ц — 1 „ — 30 „

**У кожнай хаце-чытальні, у кожным саўгасе і кожнай МТС, у кожнай школе павінны быць выданьні выдавецтва „Калгасьнік Беларусі“.**

ПАДПІСКУ ЗДАВАЙ ВЫКЛЮЧНА ПОШЦЕ АБО ЛІСТАНОСЦУ.

АДРАС ВЫДАВЕЦТВА:
МЕНСК, САВЕЦКАЯ 68. ВЫДАВЕЦТВА „КАЛГАСЬНІК БЕЛАРУСІ“.

Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ

1
1932
СТУДЗЕНЬ

ОРГАН НАРКАМЗЕМУ І КАЛГАСЦЭНТРУ БССР



ЗЬМЕСТ



## ЗА БАЛЬШАВІЦКАЕ ВЫВУЧЭНЬНЕ ГІСТОРЫІ ПАРТЫІ

*(З прамовы сакратара ЦК УсеКП(б) тав. Кагановіча на сходзе, прысьвечаным 10-годзьдзю Інстытуту Чырвонай профэсуры)*

### Марксысцка-ленінскае выхаваньне і гісторыя партыі

### Трацкісцкая кантрабанда ў гісторыі партыі

Наша партыя гіганцкі вырасла. Яна вырасла ў бязьлітаснай і рашучай барацьбе з ухіламі, са скажэньнямі марксызму-ленінізму.

Барацьба за марксысцка-ленінскае выхаваньне зьяўляецца выключна важнай, вельмі вострай зараз іменна таму, што мы ў нашай партыі маем больш двух з паловаю мільёнаў членаў, прычым з іх каля паўтара-двух мільёнаў чалавек з 3-4-5 гадовым стажам; мы маем затым 5 з паловаю мільёнаў членаў камсамолу. Як бачыце, справа ідзе аб мільёнах.

Як выхаваць гэтыя мільёны маладога пакаленьня? Як выкаваць з іх устойлівых і вопытных ленінцаў?

Мы шырока ставім праблему марксысцка-ленінскага выхаваньня членаў партыі. Як трэба па-бальшавіцку ставіць гэтую праблему?

Мы павінны выхоўваць членаў партыі, камсамол, мы павінны ўздымаць новыя і новыя пласты рабочае клясы, выхоўваючы іх на вывучэньні гісторыі нашай бальшавіцкай партыі. Уся наша гісторыя ёсьць праграма, стратэгія і тактыка, арганізацыя гераічнай барацьбы лепшых перадавых элемэнтаў нашае клясы за перамогу дыктатуры пралетарыяту, за зьнішчэньне клясаў, за камунізм.

І калі наша краіна, якая лічылася раней самай адсталай краінай у сьвеце, калі наша краіна—адна шостая частка зямное кулі—зараз зьяўляецца краінай сацыялізму, дык гэтым мы абавязаны бальшавіцкай праграме, тактыцы і арганізацыі пралетарыяту, праграме і кіраўніцтву нашай партыі. Гэтым мы абавязаны той самаадданай барацьбе, якую вялі лепшыя людзі на чале з Леніным на працягу дзесяткаў год супроць народнікаў, легальных марксыстаў, эканамістаў, меншавікоў, трацкістаў, правых і прымірэнчых элемэнтаў у партыі. Вось чаму няма лепшага вопыту, няма лепшай зброі выхаваньня нашай моладзі ў духу марксызму-ленінізму, чым гісторыя нашай партыі.

Гэтым тлумачыцца той факт, што тав. Сталін з асаблівай вастратою рэагаваў на вельмі шкодныя скажэньні і буйнейшыя памылкі, якія дапушчаны былі ў складаньні гісторыі нашай партыі.

Ён выкрыў у сваім лісьце ў рэдакцыю часопісу „Пролетарская рэволюцыя“ трацкісцка-паклёпніцкую спробу сказіць гісторыю нашай партыі, груба сказіць гісторыю ленінізму, узьвесьці паклёп на Леніна і прадставіць справу перад шырокай партыйнай і камсамольскай грамадзкасьцю такім чынам, што Ленін, нібы, да рэвалюцыі ня быў бальшавіком.

Трэба толькі ўдумацца ў гісторыю барацьбы Леніна з Мартавым, Аксэльродам, Пляханавым, пачынаючы з 1903 году, нарэшце

з Троцкім, каб зразумець, што Ленін, як ніхто іншы, змагаўся з усякага роду апартунізмам у тым ліку і з цэнтрызмам, выкрываючы яго перш за ўсё ў сваіх уласных радох, у радох Расійскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі і выкрываючы тым самым апартунізм, цэнтрызм, каўцкіянства ў II Інтэрнацыянале. Ленін заўсёды змагаўся і ганьбіў апартуністаў, якія „рэвалюцыйны“ для далёкіх краін, размахваюць кардонным мячом супроць далёкага супраціўніка, пасуючы перад сваім блізкім ворагам у сваёй уласнай краіне, ён змагаўся з рэвізіяністамі і прымірэнцамі, у сябе пад бокам, выкрываючы разам з тым рэвізіянізм і прымірэнцтва па ўсім фронце міжнароднага рэвалюцыйнага руху пралетарыяту.

Самае элемэнтарнае дабрасумленнае знаёмства з фактамі гісторыі з нясумненнасьцю говорыць аб тым, што Ленін і наогул рускія бальшавікі былі адзінымі да канца пасьлядоўнымі марксысцкімі левымі ва ўсім II Інтэрнацыянале перадваеннага пэрыяду.

**У чым заключаецца значэньне вядомага артыкулу Слуцкага?** У тым, што ён прадстаўляе адкрытую спробу працягнуць трацкісцкі хлам пад сьцягам левых сацыял-дэмакратаў даваеннага пэрыяду, пад сьцягам люксэмбургіянства. У гэтым сэнсе артыкул Слуцкага—характэрнае зьявішча сучасных абставін. Ці напісан гэты артыкул выпадкова ці не—гэта ня мае значэньня. Сам па сабе Слуцкі—вельмі нязначная, мізэрная ў палітычным сэнсе фігура. Гэты чалавек даўгі час быў меншавіком, пасьля быў па-за партыяй і толькі ў 1930 годзе ўступіў у кандыдаты нашай партыі. Факт, што гэты чалавек, уступіўшы толькі што ў кандыдаты партыі, атрымаў магчымасьць выступіць з артыкулам супроць Леніна, з абвінавачваньнем яго ў недаацэнцы небясьпекі цэнтрызму, з абвінавачваньнем яго ў тым, што ён не падтрымліваў да канца блізкіх да трацкістаў левых сацыял-дэмакратаў у Нямеччыне і значыць ня быў яшчэ тады сапраўдным рэвалюцыянэрам. Было-б вельмі многа для Слуцкага, калі-б мы заняліся тут сур'ёзным разборам гэтага паклёпніцкага глупства Слуцкага. Досыць таго, што тав. Сталін мімаходам разьбіў яго ў парахню. І справа тут нават ня ў тым, што Слуцкі напісаў паклёпніцкае глупства. Справа ў тым, што знайшлася бальшавіцкая часопісь, якая прадаставіла Слуцкаму свае старонкі для гэтага глупства.

Калі Троцкі ў сваёй гнуснай і самахвальнай брашуры „Моя жизнь“ паказвае сябе як цэнтр рэвалюцыі, замоўчваючы аб тым, што ён даўно ўжо перайшоў у лягер ворагаў рэвалюцыі, дык у гэтым няма нічога асаблівага; бо што-ж яшчэ застаецца рабіць банкроту і перабежчыку, калі не пацяшаць сябе выхвальствам і самавыхваленьнем? Калі Слуцкі спрабуе ў сваім артыкуле скарыстаць сьцяг люксэмбургіянства, каб працягнуць у наш друк трацкісцкі хлам, дык у гэтым таксама няма нічога асаблівага, бо што-ж яшчэ застаецца рабіць разьбітым дашчэнту трацкістам, як не пацяшаць сябе кантрабандай? Але калі бальшавіцкая часопісь „Пролетарская революция“ знаходзіць магчымым прадаставіць свае старонкі трацкісцкім кантрабандыстам,—дык гэта ўжо не пусьцяковае зьявішча. Гэта значыць, што ў нашых радох жыве яшчэ гнілы лібэралізм у адносінах ухілаў ад бальшавізму і скажэньняў гісторыі нашай партыі. Гэта значыць, што ў нашых радох ёсьць яшчэ людзі, гатовыя па сваім галавацяпству аказаць трацкісцкім кантрабандыстам нявольную дапамогу ў справе фальсыфікацыі гісторыі бальшавізму дзеля гнілога лібэралізму.

Вось чаму я думаю, таварышы, што барацьба з гнілым лібэралізмам у нашых радох зьяўляецца састаўной часткай нашай барацьбы супроць фальсыфікацыі і скажэньняў гісторыі нашай партыі.

## Аб ленінскім перарастаньні буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі ў рэвалюцыю сацыялістычную і аб памылках гісторыкаў

Але нажаль часопісь „Пролетарская революция“ аказалася не адзіным нашым слабым месцам. Яшчэ больш слабым месцам аказалася „Гісторыя УсеКП(б)“ таварыша Яраслаўскага. Справа ў тым, што таварыш Яраслаўскі, зьяўляючыся рэдактарам чатырох томаў „Гісторыі УсеКП(б)“ дапусьціў грубыя памылкі, ён даў волю сабраным ім маладым гісторыкам—рад з гэтых „гісторыкаў“ можна ў лапкі паставіць,—і ня толькі ня спыніў іх у спробах сказіць гісторыю партыі, але даў сваю пячатку, даў свой подпіс, сваё імя, падтрымаў іх.

Такую-ж пeратрымку і скажэньне гісторыі нашай партыі, скажэньне пазыцыі Леніна дапушчае таварыш Папоў (К. А.).

Памылкі ў гісторыі як пад рэдакцыяй тав. Яраслаўскага, так і іншых гісторыкаў зьяўляюцца вынікам недыялектычнага, схалястычнага і фармалістычнага падыходу да вывучэньня гісторыі наогул і гісторыі нашай партыі ў прыватнасьці. Таму т. Сталін у сваім лісьце асабліва падкрэсьліў задачу барацьбы з фармальна-бюракратычным падыходам да гісторыі. Калі некаторыя бальшавікі—барацьбіты за генэральную лінію партыі, трапляюць часамі на вудачку трацкістаў, дык гэта ў большасьці выпадкаў тлумачыцца тым, што яны забываюць дыялектыку, разрываюць і супроцьпастаўляюць тэорыю і практыку, гісторыю і палітыку.

## Выкрываючы манэўры трацкістаў, па-бальшавіцку змагацца за ленінізм, за генэральную лінію партыі

Асаблівасьці сучаснага этапу барацьбы за партыю, за ленінізм заключаюцца ў тым, што трацкізм разьбіт, правы ўхіл выкрыт, а генэральная лінія партыі перамагла па ўсёй лініі. Нашы перамогі—гэта турбіна за турбінай, завод за заводам, рост прадукцыі прамысловасьці і сельскай гаспадаркі, бальшавіцкія тэмпы сацыялістычнага разьвіцьця.

Адкрыта, пад сьцягам трацкізму выступаць цяпер цяжка, мас не заваюеш, капіталу не нажывеш. Выступаць трэба пад іншымі сьцягамі, лёзунгамі, тэзісамі, фармуліроўкамі.

Апартунізм спрабуе таму пралазіць зараз у нашы рады, прыкрываючыся, прымазваючыся, прыфарбоўваючыся, поўзаючы на жываце, спрабуе прасякнуць у шчыліны і ў асаблівасьці спрабуе ўлезьці праз вароты гісторыі нашай партыі.

Троцкі знаходзіцца па-за нашай краінай. Тут у нас, у Савецкай краіне, спаганены, забруджаны, разарваны на шмацьцё рабочай клясай нашай краіны, зганьбаваны сьцяг Троцкага ня можа нікога на свой бок прыцягнуць і заваяваць. Трэба падыйсьці да мас з другога боку, паціханьку, „легальнымі“ мэта-

дамі, іншымі шляхамі. Трэба падыйсьці з фронту гісторыі партыі.

Як разважаюць пры гэтым гэтыя сьцяганосцы трацкізму?—„Ну што-ж, вы—бальшавікі вы—цэкісты, вы заняты будаўніцтвам Магнітагорску, Днепрабуду, новай Масквы, Кузьнецбуду, Бобрыкаў, вы заняты плянам і трактарамі, а мы зоймемся гісторыяй, мы будзем падрыхтоўваць павольна, паціханьку будзем вужакаю поўзаць, а там дзе не дапаможа хітрасьць, прыкрыемся глупствам, скарыстаем гнілы лібэралізм некаторых бальшавікоў, але сваё паспрабуем узяць, наляжам на выхаваньне моладзі, маючы на ўвазе, па ўказцы свайго абанкруціўшагася правадыра, „далёкі прыцэл“.

Вось чаму тав. Сталін рашуча падкрэсьліў небясьпеку гнілога лібэралізму да ўсіх і ўсялякіх фальсыфікатараў гісторыі, у тым ліку—да трацкісцкіх фальсыфікатараў.

Мы сустракаемся з такімі фактамі, калі людзі, якія імкнуцца парваць з трацкісцкім мінулым, не вызваліліся яшчэ на справе ад грузу мінулага. На фракцыі гісторыкаў-марксыстаў выступаў тав. Радэк. Па яго прамове выходзіць, што Камінтэрн прыняў у свае рады тое, што было лепшага ў рабочым руху і што ў Камінтэрне нельга забываць тых плыняў і ручайкоў, якія ўліліся ў бальшавіцкую партыю. Таварыш Радэк павінен быў-бы разумець, што такое ўяўляе сабою гэта тэорыя „ручайкоў?“ Гэта-ж па сутнасьці ідэя жнівеньскага блёку. Там таксама хацелі мець розныя ручайкі, каб іх пасьля злучыць у адну рэчку, але нічога з гэтага ня вышла,—як вядома, ручайкі выліліся ў розныя бакі. Трацкізм аказаўся дрэннай пасудзінай, дзіравай. Тав. Радэк павінен зразумець, што тэорыя ручайкоў падводзіць базу пад свабоду груповак, пад свабоду фракцыйнасьці. Калі ўлічыць „ручаёк“, трэба-ж яму даць магчымасьць мець свае „цячэньне“.

Не, таварышы, наша партыя—гэта ня збор мутных ручайкоў, а гэта такі магутны і маналітны



Праўленьне калгасу падлічвае працадні калгасьнікаў.

струмень, якога ня могуць спыніць ніякія ручайкі, бо ён мае ўсе магчымасьці для таго, каб разьбіць усе перашкоды на сваім шляху (бурныя аплёдысмэнты).

Наша партыя згуртавана, як ніколі, вакол свайго ленінскага ЦК, яна адзіна ў барацьбе за ўзмацненьне пралетарскай дыктатуры, за ўмацаваньне заваёў сацыялістычнай рэвалюцыі. І калі ЦК нашай партыі зараз паднят на вялізарную вышыню, калі ён карыстаецца выключным аўтарытэтам у рабочых і калгасных масах, калі наш кіраўнік, правадыр нашай партыі тав. Сталін (бурныя аплёдысмэнты) карыстаецца непадзельным падтрыманьнем і любоўю партыі, камсамолу, пераважнай большасьці рабочай клясы, калгасьнікаў,—дык гэтым мы абавязаны таму, што наш ЦК бальшавікоў бясстомна, крок за крокам, бязьлітасна ва ўсіх галінах ускрываў усякія спробы скажэньня генэральнай лініі нашай партыі, пэратварэньня яе ў „ручайкі“ і „ручаёчкі“, усякія спробы, адхіленьні ад асноўнага шляху нашага кірунку—шляхі перамогі сацыялізму ў нашай краіне і ва ўсім сьвеце (бурныя аплёдысмэнты).



Калгасьнікі ссыпаюць насенны фонд.

# Пад сьцягам партыі Леніна — наперад да новых перамог сацыялізму!

Пад непахісным кіраўніцтвам камуністычнай партыі і яе ленінскага ЦК працоўныя Савецкага Саюза дасягнулі ў 1931 годзе сусьветна-гістарычных перамог на ўсіх вучастках сацыялістычнага будаўніцтва. Мы пабудавалі нябачаныя ў сьвеце заводы-гіганты. Сацыялістычная індустрыя СССР дасягнула 60 проц. удзельнай вагі ў агульнай валавой прадукцыі краіны.

Валавая прадукцыя прамысловасьці БССР вырасла на 69 проц., альбо да 673,2 мільёны рублёў супроць 376,6 мільёнаў руб. у 1930 г. Укладаньні ў сельскую гаспадарку выраслі на 59,3 проц., а ў абсалютных лічбах мы маем прырост укладаньняў у 151 мільён руб. супроць 90 мільёнаў р. у 1930 г.

На аснове індустрыялізацыі краіны партыя дабілася аграмаднейшых посьпехаў у сацыялістычнай перабудове сельскай гаспадаркі. Шмат за год вырасла буйных савецкіх гаспадарак. Уступіла ў строй 1.400 машына-трактарных станцый, па БССР лічба МТС вырасла з 3 у 1930 да 32 у 1931 г. Калгасамі ахоплена больш 60 проц. бядняцка-серадняцкіх гаспадарак СССР, па Савецкай Беларусі гэты процант перавышае 50. Калгаснае сялянства стала моцнай апорай партыі і Савецкай улады на вёсцы, ператварылася ў цэнтральную фігуру земляробства.

1931 год быў годам завяршэньня пабудовы ў СССР сацыялістычнай эканомікі. Гэты год яшчэ раз паказаў, **„што савецкая сыстэма гаспадаркі авалодвае такімі перавагамі, аб якіх ня сьмее марыць ні адна буржуазная дзяржава, будзь яна самая „дэмакратычная“, „агульнанародная“** і г. д.“ (Сталін).

1932 год зьяўляецца годам завяршэньня пяцігадовага пляну. Кантрольныя лічбы на гэты год, якія зацьверджаны 2-й сэсіяй ЦВК СССР, а па Савецкай Беларусі—2-й сэсіяй ЦВК БССР,—і выходзяць з асноўнага лёзунга партыі і ўсіх працоўных нашай краіны—завяршыць выкананьне пяцігодкі ў чатыры гады.

У чацьвертым заключным годзе пяцігодкі прырост валавой прадукцыі прамысловасьці СССР, згодна кантрольных лічбаў, намечан на 36 процантаў, замест выкананых у 1931 годзе 20—21 проц. Прырост індустрыі, якая вытварае сродкі вытворчасьці, намечан у 43 проц. і па індустрыі, якая вытварае прадметы шырокага ўжываньня—29 проц. Плянам заключнага году пяцігодкі пастаўлена задача максымальнага разгортваньня галоўных, рашаючых галін народнай гаспадаркі—вугаль, метаьль, машынабудаўніцтва.




Капітальныя ўкладаньні ў індустрыю СССР у 1932 годзе складуць у суме 10 мільярдаў 700 мільёнаў руб., супроць 8 мільярдаў 700 мільёнаў руб. мінулага году. На ўсю пяцігодку капітальнае ўкладаньне ў прамысловасьць было намечана ў размеры 13 з паловай мільярдаў рублёў, а за чатыры гады гэтыя ўкладаньні складуць 26,7 мільярдаў руб. Такім чынам па капітальнаму ўкладаньню пяцігодка ў чатыры гады будзе падвоена.

Капітальнае ўкладаньне ў прамысловасьць па БССР складзе ў 1932 годзе ў суме 70 з паловай мільёнаў рублёў. Прырост прамысловасьці намячаецца наступны: па ВСНГ на 59,6 проц. з давядзеньнем яе аб'ёму да 634.636 тыс. руб., па наркамснабу—на 64,6 проц. з аб'ёмам у 295.500 т. руб., па мясцовай прамысловасьці—на 95 проц., аб'ём у 71.656 тыс. руб., па саматужнай прамысловасьці—на 95 проц. з аб'ёмам у 244,4 мільёны руб. і па іншай дробнай прамысловасьці прырост намечан на 73,6 проц.

Аграмадныя мерапрыемствы намечаны плянам на 1932 год і ў галіне сельскай гаспадаркі. Пасеўная плошча па Саюзу рэспублік пашыраецца да 102 млн. гектараў, супроць 97,4 мільёнаў у мінулым годзе, па БССР разьмер пасеўнай плошчы вызначан у 4 мільёны 150 тысяч гектараў, што дасьць прырост у параўнаньні з мінулым годам на 16,5 проц.

Вялікай колькасьцю трактароў і складаных сельскагаспадарчых машын узброюцца нашы савецкія і калектыўныя гаспадаркі. Ня менш 1 мільёна конскіх сіл трактароў дадуць нашы трактарныя заводы ў 1932 годзе. Будаўніцтва машына-трактарных станцый атрымае новы магутны размах. Па Саюзу ССР будзе 1.700 новых МТС, па Савецкай Беларусі лічба машына-трактарных станцый дойдзе да 97 з тым, каб да канца 1932 году трактарны парк БССР дасягнуў 107 тысяч конскіх сіл. Такім чынам у кожным раёне ў нас будзе МТС, а ў некаторых раёнах і па 2 МТС. Па Саюзу ССР будзе дадзена нашай сацыялістычнай сельскай гаспадарцы на 900 мільёнаў сельска-гаспадарчых машын, галоўным чынам, уборачных.

Аграмадныя мерапрыемствы намечаны па лініі разьвіцьця сацыялістычнай жывёлагадоўлі. Па БССР плян прадугледжвае давесьці пагалоўе коняй да 930 тысяч штук—прырост на 5 процантаў у параўнаньні з 1931 годам. Стада буйнай рагатай жывёлы павінна быць даведзена да 2 мільёнаў 208 тысяч альбо на 35,7 проц. прырост. Па саўгасах колькасьць усёй жывёлы павялічваецца на 72 проц., у тым ліку кароў на 64,4 проц., у калгасных таварных фэрмах—на 45,5 проц., у тым ліку кароў на 92,3 проц. Па спажывецкай каапэрацыі павялічваецца стада жывёлы на 40 процантаў, у тым ліку кароў на 25 процантаў. Пагалоўе сьвіней запраектавана давесьці да канца 1932 году да 3 мільёнаў 800 тыс. галоў, альбо даць прырост на 39,7 проц. у параўнаньні з мінулым годам.

**Наша задача—дабіцца ў заключным годзе пяцігодкі ў асноўным вырашэньня праблемы разьвіцьця сацыялістычнай жывёлагадоўлі.**

Усяго ў сацыялістычны сэктар сельскай гаспадаркі партыя рашыла ўкласьці ў 1932 г. 4 мільярды 360 мільёнаў рублёў супроць 3 мільярдаў 600 мільёнаў руб. у мінулым годзе. Гэта значыць, што яшчэ больш павялічваецца тэхнічная ўзброенасьць нашых савецкіх і калектыўных гаспадарак. Цэнтральнай задачай на 1932 год у галіне сельскай гаспадаркі зьяўляецца барацьба за ўраджайнасьць нашых сацыялістычных палёў, за падняцьце якасьці калгаснай вытворчасьці, за арганізацыйна-гаспадарчае замацаваньне калгасаў.

Праграма сацыялістычнага будаўніцтва, якая намечана на 1932 заключны год пяцігодкі—грандыёзна. Яна далёка пакідае ззаду ўзровень нашага будаўніцтва, якое было ў 1931 годзе. Намечаная праграма заключнага году пяцігодкі зусім рэальна і забясьпечвае выкананьне пяцігодкі ў чатыры гады.

**„Рэальнасьць нашай праграмы—гэта жывыя людзі, гэта мы з вамі, наша воля к працы, наша гатоўнасьць працаваць па-новаму, наша рашымасьць выканаць плян. Ці ёсьць у нас яна, гэтая самая рашымасьць? Так, ёсьць. Значыць, наша вытворчая праграма можа і павінна быць ажыцьцёўлена“** (Сталін).







Аграмадныя задачы сацыялістычнага будаўніцтва, якія перад намі стаяць у гэтым годзе, мы выканаем толькі тады, калі поўнасьцю правядзем у жыцьцё 6 умоў таварыша Сталіна.

На аснове правядзеньня генэральнай лініі нашай партыі мы з посьпехам завяршылі ў 1931 годзе пабудову фундаманту сацыялістычнай эканомікі. З яшчэ большым посьпехам мы выканаем намечаны плян заключнага году пяцігодкі. Пад кіраўніцтвам бальшавіцкай партыі і яе ленінскага ЦК на чале з тав. Сталіным рабочая кляса поўнасьцю і канчаткова забясьпечыла перамогу сацыялізму ў СССР. Гэтая перамога забясьпечвае і завяршэньне першай пяцігодкі ў чатыры гады.

**Рабочыя, калгасьнікі і ўсе працоўныя СССР! Пад сьцягам партыі Леніна—наперад да новых перамог сацыялізму! Усе сілы на выкананьне пляну заключнага году пяцігодкі!**

**За пяцігодку ў чатыры гады!**

# Мы да вясны рыхтуемся

У калгасах Ветрынскай МТС нарыхтоўка да веснавой пасеўкампаніі разгорнута ва ўсю шырыню; трактарны парк прыступіў к рамонту трактароў яшчэ з кастрычніка месяца. Спэцыяльная майстэрня праводзіць рамонт трактароў і частак да іх кожны дзень.

Уборачныя сельскагаспадарчыя машыны прыведзены ў парадак—яны ўсе сабраны з калгасаў. Няспраўныя машыны рамантуюцца.

Праведзен поўны вучот калгаснага інвэнтару па ўсіх калгасах, з мэтай выяўленьня яго наяўнасьці, а таксама патрэбнага рамонту. Вядзецца падрыхтоўчая праца па ачыстцы збожжа, як калгасным, так і аднаасобным сэктарам.

Можна з упэўненасьцю сказаць, што ў Ветрынскай МТС к вясьне будуць спраўныя ўсе машыны і сельскагаспадарчыя прылады, а таксама ачышчана насеньне.

Л. Сьмелы.



Калгасьнікі здаюць дзяржаве ільнавалакно.

**Да трэцяй бальшавіцкай вясны**

# ЗІМОВЫ ПЭРЫОД—ВАЖНЕЙШЫ ЭТАП У ПАДРЫХТОЎЦЫ ДА ВЕСНАВОЙ СЯЎБЫ

## УЗЯЦЬ БАЛЬШАВІЦКІЯ ТЭМПЫ!

Трэцяя бальшавіцкая вясна мае выключнае гаспадарча-палітычнае значэньне. Пасьпяхова арганізаваць і правесьці падрыхтоўку да вясны, па баявому, пераможна правесьці сяўбу—гэта значыць забясьпечыць выкананьне пляну чацьвертага заключнага году пяцігодкі, гэта значыць забясьпечыць посьпех у арганізацыйна-гаспадарчым замацаваньні калгасаў. Таму падрыхтоўцы і правядзеньню веснавой пасеўнай кампаніі павінна быць зьвернута выключная ўвага партыйных, савецкіх, камсамольскіх, прафсаюзных арганізацый і ўсёй калгаснай сыстэмы.

Падрыхтоўку да веснавой сяўбы трэба праводзіць сапраўды баявымі тэмпамі з тым, каб баявы пераход ад зімовай падрыхтоўкі к напружнаму, шпаркаму і пераможнаму выкананьню плянаў веснавой сяўбы ў гэтым годзе пазбавіў тых прарываў на пасеўным фронце, якія мы мелі па некаторых раёнах у мінулую веснавую пасеўкампанію. На пасьпяховае правядзеньне гэтай важнейшай гаспадарча-палітычнай кампаніі трэба мабілізаваць усю ўвагу калгасьнікаў, рабочых саўгасаў і МТС і бядняцка серадняцкія масы аднаасобнікаў.

А між тым зьвесткі з раёнаў гавораць аб тым, што на мясцох гэтая кампанія не разгорнута яшчэ.

**Па Бабруйшчыне**, напрыклад, сельсаветы ня маюць яшчэ плянаў правядзеньня веснавой сяўбы. Райземаддзел, затрымлівае пасеўныя пляны ў сябе ў канцэлярыі разважаючы, што „пасьпеем яшчэ, вясна далёка“. Зернаачышчальныя машыны стаяць бяз руху, абозы па ачыстцы насеньня не распачалі сваёй працы.

Такое-ж становішча з падрыхтоўкай да веснавой сяўбы мы маем і ў **Веткаўскім раёне**. У гэтым раёне толькі ў канцы сьнежня месяца райкалгассаюз паставіў пытаньне аб падрыхтоўцы да сяўбы на нарадзе старшынь. Далей нічога райкалгассаюзам практычна ня зроблена. Рад раённых установаў гэтага раёну зусім не клапоцяцца яшчэ аб падрыхтоўцы да сяўбы. На 30 сьнежня пасеўныя пляны ня былі даведзены нават да насенаводных калгасаў. Зусім не разгорнута работа па стварэньні насенных фондаў.



У кузьні калгасу за рамонтам с.-г. інвэнтару

Ня лепш абстаіць справа з падрыхтоўкай да сяўбы і ў астатніх раёнах БССР.

З першых ужо дзён падрыхтоўкі заўважана, што мясцовыя арганізацыі не надалі гэтай важнейшай кампаніі належнай увагі. На пасьпяховую падрыхтоўку да веснавой сяўбы не мабілізавана ўвага масы калгасьнікаў і рабочых саўгасаў і МТС. Дзякуючы гэтаму сярод значнай часткі калгасьнікаў маюцца разважаньні аб тым, што „чаго там надта сьпяшацца, падрыхтуемся яшчэ“ (Бабруйскі раён).

У Бабруйскім, напрыклад, раёне на складзе Белсельснабу маецца розных сельскагаспадарчых машын і інвэнтару на 120 тысяч рублёў, але прасоўваньне яго ў калгасы праходзіць вельмі марудна. Калгасы адмаўляюцца забіраць машыны, „пасьпеем яшчэ“—заяўляюць яны. Яшчэ горш стаіць справа з прасоўваньнем штучнага ўгнаеньня. На базе ў гэтым раёне ляжыць каля 200 *т* рознага штучнага ўгнаеньня і калгасы не забіраюць па тых-жа адгаворках—пасьпеем яшчэ“.

Недапушчальна марудна праходзіць рамонтная кампанія трактароў і сельскагаспадарчых машын. Нягледзячы на зусім выразныя дырэктывы Саюзнага Наркамзему і Наркамзему БССР па гэтаму пытаньню, зьмяшчаемыя ў гэтым нумары часопісі факты гавораць аб тым, што рамонтная кампанія становіцца пад пагрозу зрыву.

Рамонтнай кампаніі, як важнейшай састаўной часткі ў падрыхтоўцы да веснавой сяўбы, да гэтага часу яшчэ не нададзены баявыя тэмпы. Трактарацэнтр не забясьпечыў па сваёй сыстэме апаратным кіраўніцтвам рамонтную кампанію, ня мае нават дасканалых зьвестак з машынна-трактарных станцый, як праходзіць рамонт трактароў. Такое-ж становішча мы маем і па сыстэме Сьвінаводтрэсту, Саўгастрэсту і Малочна-прамысловага трэсту.

Усе гэтыя факты гавораць аб тым, што ў падрыхтоўцы да веснавой сяўбы мы ня маем яшчэ належнага пералому як у некаторых Цэнтральных установах, так і ў радзе раённых арганізацый.

Падрыхтоўцы да веснавой сяўбы трэба зараз-жа надаць бальшавіцкія тэмпы. Партыйныя, савецкія і камсамольскія арганізацыі і ўся калгасная сыстэма павінны мабілізаваць усе свае сілы на падрыхтоўку да веснавой сяўбы. На пасьпяховае правядзеньне гэтай важнейшай гаспадарча-палітычнай кампаніі трэба мабілізаваць масы калгасьнікаў і рабочых саўгасаў і МТС.

Рашучым чынам трэба змагацца з самацёкам у падрыхтоўцы да веснавой сяўбы. Усялякім разважаньням аб тым, што з падрыхтоўкай да сяўбы „пасьпеем яшчэ“ трэба даваць рашучы адпор. Трэба памятаць, што такія разважаньні ёсьць ні што іншае як думкі нашага клясавага ворага — кулака, які імкнецца сарваць падрыхтоўку да сяўбы, які дамагаецца пашкодзіць арганізацыйна-гаспадарчаму замацаваньню калгасаў і гэтым самым падарваць пасьпяховае наша калгаснае будаўніцтва.

С—ка.

# НЕ ДАПУСЬЦІЦЬ ЗРЫВУ РАМОНТНАЙ КАМПАНІІ

Наркамзем БССР яшчэ ў лістападзе месяцы выдаў пастанову аб падрыхтоўцы і разгортваньні рамонту трактароў і сельскагаспадарчага інвэнтару, які будзе выкарыстоўвацца ў часе веснавых палявых работ. Паводле гэтай пастановы гаспадарчыя арганізацыі павінны былі неадкладна разгарнуць належную падрыхтоўку да зімовага рамонтнага сэзону з такім разьлікам, каб да 15 лістапада гэтыя падрыхтоўчыя работы былі поўнасьцю скончаны.

Аднак, ня гледзячы на зусім канкрэтныя паказаньні Наркамзему, калгасная сыстэма, МТС і іншыя гаспадарчыя арганізацыі і зараз яшчэ амаль не разгарнулі рамонтную кампанію. Заключэньне саўгасамі і калгасамі дагавароў з рамонтнымі арганізацыямі зараз толькі, калі прайшлі ўсе тэрміны, пачынае разгортвацца. Большасьць саўгасаў і калгасаў не падлічылі яшчэ сваёй патрэбы ў рамонце, ня склалі плянаў рамонту, не гаворачы ўжо аб тым, што ніводная з кіруючых сельскагаспадарчых арганізацый гэтых плянаў ня мае.

Дакладнага вучоту патрэбнасьці запасных частак, мэталю і іншых рамонтных матар'ялаў і абсталяваньня ў большасьці майстэрняў няма, ня гледзячы на тое, што ў гэтых матар'ялах адчуваецца вялікі недахоп. Большасьць рамонтных майстэрняў на гаспадарчы разьлік не пераведзена і гэта ў значнай меры тармозіць пасьпяховае правядзеньне рамонтнай кампаніі.

Рамонтная кампанія не заняла яшчэ належнага месца ў рабоце раённых і сельскіх арганізацый. Мясцовыя арганізацыі лічаць, што „да вясны, яшчэ далёка, таму можна з гэтай работай асабліва не сьпяшацца". Вынікам усяго гэтага зьяўляецца неналаджанасьць адпаведнага апарацыйнага кіраўніцтва правядзеньнем рамонтнай кампаніі і апошняя праходзіць недапушчальна маруднымі тэмпамі.

Так, па сыстэме Трактарацэнтру на 20 сьнежня з 1.118 трактараў, патрабуючых рамонту, адрамантавана толькі 72. Кампанія заключэньня дагавароў з рамонтнымі майстэрнямі сыстэмаю Трактарацэнтру амаль не распачата.

Па саўгасах „Сьвінаводтрэсту" сёлета патрэбна адрамантаваць 171 трактар, па саўгасах Саўгастрэсту—42 трактары, але ніводзін з гэтых трэстаў у канцы сьнежня ня ведаў яшчэ ці распачаўся па іх сыстэмах рамонт трактароў, ці не.

Па малочна-прамысловаму трэсту з 164 трактароў адрамантавана ўсяго толькі 3 трактары і 8 матораў. Як праходзіць далейшы рамонт трактароў гэтаму трэсту невядома, як невядома і тое, ці выконваюцца пасланыя імі ў нізоўку паказаньні аб прымацаваньні саўгасаў да пэўных рамонтных вучасткаў.

Кіраўніцтвам мясцовай прамысловасьці вылучана тры майстэрні для рамонту трактароў (Полацак, Слуцак, Ворша). Як ідзе там рамонт трактароў кіраўніцтву невядома. Дагавароў з сельскагаспадарчымі арганізацыямі паказаныя майстэрні яшчэ не заключалі.

Па лініі Беларускага Саматужна-прамысловага саюзу дадзена ўказаньне Магілеўскаму Камбінату аб вытвараньні рамонту, аднак плян рамонту, які будзе праводзіцца камбінатам, ня ўвязаны і ня ўзгоднены з райкалгассаюзам і райсампрамсаюзам. Гэта ўносіць пагрозу неплянавасьці ў рамонце і паўтарэньні памылак мінулага году, калі былі асобныя выпадкі, што ў часе падрыхтоўкі да веснавой сяўбы ў асобных майстэрнях (Быхаў) уборачныя машыны рамантаваліся раней чым пасеўныя.

Недастаткова забясьпечаны майстэрні рамонтнымі матар'яламі і запаснымі часткамі. Асабліва не хапае шатуноў, шатунных балтоў і інш. З мэталяў—адчуваецца асабліва востры недахоп бабіту. На гэтыя матар'ялы даны зараз адпаведныя заяўкі ў „Сельгаснабжэньне".

Усе спадзяюцца на цэнтралізаванае забесьпячэньне, а на мясцох не разгорнута ніякая работа па выяўленьню ўнутраных рэсурсаў.

Між тым, пры правядзеньні пэўнай работы па выяўленьні і скарыстаньні прыгодных запасных частак і мэталю з выбракаваных машын, гэты недахоп матар'ялаў можна было-б у значнай меры зьменшыць.

Значную колькасьць запасных частак да трактароў і іншых сельгасмашын можна вытварыць у рамонтных майстэрнях і прадпрыемствах мясцовай прамысловасьці, але гэта работа таксама яшчэ належным чынам не разгорнута.

Усё гэта ўносіць пагрозу несвоечасовай падрыхтоўкі трактароў, сельскагаспадарчых машын і інвэнтара да веснавой сяўбы. У рабоце па правядзеньні рамонтнай кампаніі і патрэбен рашучы пералом. Саўгасы, калгасы, МТС павінны зараз-жа перабудаваць сваю работу так, каб забясьпечыць посьпех рамонтнай кампаніі. Трэба поўнасьцю выявіць і скарыстаць мясцовыя рэсурсы.

У арганізацыі і правядзеньні рамонтных работ вялікую ролю павінны адыграць камсамольскія арганізацыі і Аўтадор.

**М. Н-скі.**



**Рамонт трактару да веснавой сяўбы.**

# Задачы сьвінаводных саўгасаў у падрыхтоўцы да сяўбы

Безадкладнае разгортваньне падрыхтоўкі да сяўбы вымагаецца, як пашырэньнем пасеўнай плошчы па сьвінсаўгасах з 31.000 *га* да 78.500 *га*, што па некаторых саўгасах дае павялічаньне ў 5,8 разоў (Сялецк, Жалезьнякі і інш.), так і барацьбой за падвышэньне ўраджайнасьці ўсіх культур.

Падрыхтоўка і правядзеньне веснавой сельскагаспадарчай кампаніі павінна гарантаваць выкананьне прамфінпляну 1932 г.

Трэба прадугледзіць:

1. Поўную патрэбнасьць у грубых і сакавітых кармох, забясьпечыць выпасамі як усё сьвіное пагалоўе, так і ўсю жывёлу ўлетку 1932 г.
2. Максімальнае (ня менш 40 проц. у сярэднім) забесьпячэньне патрэб сьвінасаўгасаў зернавымі кармамі.
3. Забясьпечанасьць у поўнай меры патрэбнага насеньня для 1933 г.
4. Поўнае пакрыцьцё патрэбнасьцяй у спажывецкіх культурах для забесьпячэньня рабочых і служачых сьвінасаўгасаў, выканаўшы ў першую чаргу свае абавязкі перад дзяржавай па здачы (продажу) таварнай прадукцыі.

Асноўнымі ўмовамі пасьпяховай падрыхтоўкі і поўнага выкананьня задач трэцяе бальшавіцкае сяўбы зьяўляюцца:

а) Суровы, дасканалы аналіз, жорсткая крытыка прычын прарываў 1931 г. (адвод няпрыгодных зямель, зрыў зябі, позьні завоз сродкаў вытворчасьці, адсутнічаньне арганізаванага набору рабочай сілы і інш.) і недапушчэньне іх, як у падрыхтоўчай, так і ў непасрэднай рабоце ў час сяўбы.

б) Распрацоўка пасеўнага пляну саўгасу, кожнага вытворчага вучастку з давядзеньнем гэтага пляну да цэху, брыгады, групы, асобнага выканаўцы, ліквідаваўшы, такім чынам, ня толькі абязьлічку на трактарох, машынах, конях, але і на самой зямлі.

в) Забесьпячэньне саўгасаў новымі сельскагаспадарчымі машынамі, трактарамі, аўтатранспартам, гаручым, насеньнем, сваячасовае правядзеньне рамонту трактароў, сельскагаспадарчых машын, транспарту і збруі, забесьпячэньне цягавай сілай.

г) Трэба паклапаціцца аб арганізаваным сваячасовым наборы рабочае сілы, ліквідаваць абязьлічку, арганізаваць працу на аснове зьдзельна-прагрэсіўнай аплаты, арганізаваць грамадзкае харчаваньне.

д) Арганізацыя сталай узаемадапамогі паміж саўгасамі, МТС і калгасамі.

е) Разгортваньне сапраўды сацыялістычных мэтадаў працы ў падрыхтоўчай рабоце і правядзеньні сяўбы. Змаганьне за якасьць працы, за ўнядрэньне агратэхнікі, за высокую прадукцыйнасьць, за максымальную ўраджайнасьць поля, мабілізуючы на выкананьне і перавыкананьне гэтых задач шырачайшую грамадзкасьць саўгасу.

Пасьпяховая падрыхтоўка да вясны патрабуе як найхутчэйшага заканчэньня абмалоту ўсіх культур, не дапушчаючы спажываньня ні аднаго кілёграма гатунковых і ўсіх пасеўных культур, каб мець мажлівасьць да 15 студзеня закончыць поўнасьцю перакідку насеньня ў межах сыстэмы саўгасаў і арганізаваць цэнтралізаванае забесьпячэньне насеньнем.

Пад пэрсанальную адказнасьць дырэктароў савецкіх гаспадарак і спэцыяльна вылучаных адказных асоб павінен быць арганізован пільны кантроль за правільным захаваньнем насеньня, асабліва бульбы, улічваючы ўмовы, у якіх яна захоўвалася. Трэба арганізаваць нагляд за нарыхтоўкай нехапаючага насеньня.

Адзін з буйнейшых прарываў мінулага году—завоз угнаеньня і сельскагаспадарчых машын у час сяўбы, а ў большасьці поўны зрыў завозу,—сёлета павінен быць выпраўлен поўным сваячасовым завозам угнаеньня, каб не пазьней як да 1 лютага 1932 г. усё было зроблена.

Барацьба за сапраўдны высокі ўраджай патрабуе, каб сяўба была праведзена гатунковым ачышчаным насеньнем, радавымі сеялкамі і ў тэрміны, гарантуючыя найбольш высокі ўраджай. Задача барацьбы за ўраджай патрабуе, каб поўнасьцю і правільна былі выкарыстаны ўсе ўгнаеньні (гной, штучныя ўгнаеньні, пляны тарфаваньня і вапнаваньня). Дырэктары саўгасаў павінны арганізаваць поўны збор попелу ня толькі ў саўгасе, але і ў бліжэйшых гарадох, мястэчках, прадпрыемствах.

1932 год павінен зьявіцца годам ня толькі барацьбы за ўраджай сеяных палявых культур—але і рашучай барацьбы за падвышэньне ўраджайнасьці натуральных сенажацяй.

Рамонтная кампанія ў сьвінасаўгасах павінна быць закончана абавязкова да 1 лютага 1932 г. Зараз-жа павінны быць заключаны ўмовы з майстэрнямі і дадзены ведамасьці на патрэбны трактарам рамонт і заяўкі на патрэбныя запасныя часткі. Для безадкладнага разгортваньня рамонтнай работы неабходна мабілізаваць усе ўнутраныя рэсурсы, даючы поўную справаздачнасьць выкананьня гэтае задачы.

Зараз-жа павінны быць прыняты рэальныя меры поўнага забесьпячэньня да 1 лю-



Ачыстка насеньня ў калгасе.

тага тарай для гаручага (цыстэрны, бочкі), арганізавана і закончана абсталяваньне складаў не пазьней 15 лютага.

Рашаючай сілай у сяўбе гэтага году будзе зьяўляцца яшчэ конская цягавая сіла. У сувязі з чым да каня патрэбны самыя беражлівыя адносіны: безадкладная ліквідацыя абязьлічкі, палепшаньне ўмоў утрыманьня. Трэба зараз-жа паклапаціцца аб закупцы, рамонце збруі і летняга транспарту, каб закончыць усё гэта да 1 сакавіка. Зараз-жа павінен быць забраніраван, як недатыкальны, 2-месячны запас кармоў для веснавой сяўбы, забясьпечыўшы на справе сапраўды эканомнае выдаткаваньне кармоў на працягу ўсяго часу ўсім відам жывёлы.

Посьпехі ў правядзеньні падрыхтоўкі да сяўбы і правядзеньне яе будуць вызначаць з рэалізацыі 6-ці ўмоў т. Сталіна, ад ліквідацыі абязьлічкі, ліквідацыі самацёку, арганізаванага набору рабочае сілы праз дагаворы з калгасамі, праз палепшаньне арганізацыі працы, правільнай расстаноўкі сілы на прадпрыемстве, максымальнай мэханізацыі працы, ліквідацыі цякучасьці рабочай сілы, зьнішчэньня ўраўнілаўкі, правільнай арганізацыі зарплаты і рэальнага палепшаньня бытавых умоў рабочых.

Выходзячы з паказаньняў тав. Сталіна, трэба дабіцца таго, каб „у рабочай клясы СССР была свая ўласная вытворча-тэхнічная інтэлігенцыя" і „зьмяніць адносіны да інжынэрна-тэхнічных сіл старой школы, праяўляць да іх больш увагі, клапату, сьмялей прыцягваць іх да работы". Дырэктары і рабкомы абавязаны стварыць умовы для максымальна-вытворчай працы спэцыялістаў, прыцягваючы іх на выкананьне плянаў сяўбы. Рост новых саўгасаў, павялічаньне плошчаў сяўбы патрабуюць ад сэктару кадраў НКЗему і аб'яднаньня Сьвінавода рэальнай дапамогі забясьпечаньня арганізацыі кадрамі, хаця б найбольш буйныя саўгасы. Барацьба за максымальны ўраджай праз дасканалую агратэхніку можа быць вырашана толькі тэхнічна пісьменнымі кадрамі, таму ў бліжэйшыя дні ва ўсіх саўгасах павінны быць ахоплены ўсе 100 проц. палявых рабочых курсамі па аўладаньню агратэхнікай.

Для кіраўніцтва падрыхтоўкай да пасеўкампаніі, і ў мэтах найбольш хуткага ажыцьцяўленьня апарацыйных заданьняў па пасеўнай кампаніі, у дэкадны тэрмін стварыць пасеўныя пяцёркі ў складзе прадстаўнікоў адміністрацыі, партячэйкі, КСМ, рабочага камітэту, акрамя таго трэба вылучыць адказных за вярбоўку рабочае сілы і рамонт машын.

У дэкадны тэрмін трэба забясьпечыць распрацоўку канкрэтнага пляну падрыхтоўкі да вясеньняй кампаніі, арганізаваць, з удзелам рабочага камітэту, збор рабочых прапаноў па хутчэйшай і лепшай падрыхтоўцы да сяўбы, праводзячы ўсю працу падрыхтоўкі на аснове сацспаборніцтва і ўдарніцтва, арганізацыяй сустрэчных плянаў, асабліва па якасных паказчыках. Трэба гаспадарча-разьліковымі брыгадамі пакрыць усе саўгасы, арганізаваць насьценгазэты, правясьці пераклічку агляду гатоўнасьці да сяўбы і гэтым дабіцца выкананьня плянаў сяўбы, росту вытворчасьці і якасьці працы.

Пляны 3-яе бальшавіцкае сяўбы сустрэнуць шалёнае супраціўленьне клясавага ворага кулацтва і яго агентуры—апартуністаў усіх колераў. Гэта трэба ўлічыць і апіраючыся на шырокую партыйна-прафсаюзную грамадзкасьць, мабілізуючы ўсе сілы рабочых на выкананьне і перавыкананьне плянаў сяўбы, даць рашучы адпор. Саўгасы павінны мабілізаваць усю савецкую грамадзкасьць на арганізацыйна-гаспадарчае замацаваньне калгасаў, як цэнтральную задачу далейшага калгаснага будаўніцтва.

Атрымаць максымальную дапамогу з калгасаў магчліва толькі на базе гаспадарчай узаемадапамогі, таму ў прамфінплян саўгасаў павінна быць уключана і ажыцьцёўлена арганізацыйная і непасрэдная вытворчая дапамога як рамонт с.-г. машын, апрацоўка трактарамі, вытворнікамі і інш.

Падрыхтоўку да веснавой сяўбы трэба як найшырэй выкарыстаць для замацаваньня гаспадарчага разрахунку, выконваючы адну з рашаючых умоў тав. Сталіна „Укараніць і ўмацаваць гаспадарчы разьлік, узьняць унутрыпрамысловае накапленьне". Выходзячы з гэтага трэба дасканала распрацаваць усе матар'ялы каштоўнасьці культур за папярэднія гады, прыняць і ажыцьцявіць баявую праграму зьніжэньня сабекаштоўнасьці прадукцыі, арганізаваць вытворчасьць сапраўды танных кармоў, забясьпечыўшы жорсткі кантроль рублём.

**Аўчыньнікаў.**

# На Шклоўшчыне разважаюць: „Часу яшчэ хопіць"

Вясна з кожным днём набліжаецца. Засталося каля 3-х месяцаў да сяўбы. Шмат у якіх раёнах разгорнута шырокая падрыхтоўка веснавой кампаніі.

Што-ж робіцца на Шклоўшчыне ў гэтым напрамку?

МТС для рамонту трактароў арганізавала з 19 чалавек 6 брыгад. Работа брыгад з-за адсутнасьці норм выпрацоўкі на зьдзельшчыну не пераведзена, праца праходзіць падзённа. Не хапае значнае колькасьці трактароў. Па пляну ў студзені мяркуецца арганізаваць курсы на 200 чалавек.

Ход рамонтнай кампаніі паказвае тэмпы нездавальняючыя. 39 трактароў, якія патрабуюць дробнага рамонту і 2 капітальнага—да тэрміну ня будуць гатовы. Райкалгассаюз і райза фармальна ўсё зрабілі. Пасеўныя пляны па калгасах і аднаасобнаму сэктару разасланы. У плянах вызначана колькі і якіх культур кожнаму калгасу, вёсцы засяваць. Але гэтыя пляны пакуль-што ляжаць у папках канцэлярыі, або ў старшынь калгасаў і сельскіх саветаў.

Пытаньнем веснавой сяўбы не займаліся яшчэ ні партыйныя ячэйкі, ні камсамольскія. Пытаньне гэта не стаяла на шырокай нарадзе старшынь калгасаў і сябраў сельскіх саветаў. Наогул, пакуль-што падрыхтоўка да веснавой сяўбы ня лічыцца першачарговай кампаніяй, а разважаюць, што часу яшчэ хопіць.

Збожжаачышчальныя машыны стаяць і збожжа не адсартоўваецца. Апартуністычную думку, што часу яшчэ на падрыхтоўку да сяўбы хопіць—трэба разьбіць. Трэцяя бальшавіцкая вясна патрабуе бальшавіцкіх тэмпаў падрыхтоўкі, бо не тады падрыхтоўвацца, калі настане пара сеяць.

**Г. Шумілаў.**



# Масавыя навукова-дасьледчыя арганізацыі павінны змагацца за высокую калгасную вытворчасьць

Задача арганізацыйна-гаспадарчага замацаваньня калгасаў пастаўлена партыяй перад усімі партыйнымі арганізацыямі, калгаснымі, зямельнымі і навукова-дасьледчымі ўстановамі і арганізацыямі, як галоўнейшая задача на даным этапе калгаснага будаўніцтва.

Аб'яднаны лістападаўскі пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б прызнаў слабай работу навуковых і дасьледчых установ „**у галіне барацьбы за лепшую арганізацыю калектыўнай вытворчасьці, за ўзьняцьце ўраджайнасьці, павышэньне таварнасьці жывёлагадоўлі і г. д. (адрыў навуковых і дасьледчых установ ад калгасных мас і калгаснай вытворчасьці, адсутнасьць шырока і правільна пастаўленых вопытаў, адсутнасьць гібкасьці ў перанясеньні лепшых, якія ўжо апраўдаліся, вопытаў для шырокага практычнага іх ажыцьцяўленьня**)“.

Пленум рашуча паставіў перад усімі навукова-дасьледчымі ўстановамі задачу ўзмацненьня і палепшаньня навукова-дасьледчай работы ў галіне арганізацыйна-гаспадарчага замацаваньня калгасаў.

Пастановы пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б у поўнай меры адносяцца і да ўсіх краязнаўчых арганізацый, як масавых навукова дасьледчых арганізацый, якія павінны актыўна змагацца за поўнае ажыцьцяўленьне дырэктыў партыі ва ўсіх галінах сацыялістычнага будаўніцтва і быць баявымі масавымі арганізацыямі ў навукова-дасьледчай працы, непасрэдна зьвязанай з практыкай сацыялістычнага будаўніцтва,

Перад цэнтральным бюро краязнаўства (ЦБК) і ўсімі раённымі краязнаўчымі арганізацыямі стаіць задача ўсямерна і неадкладна пашырыць сетку краязнаўчых ячэек у калгасах, павесьці рашучую барацьбу з недаацэнкай масавай дасьледчай працы з боку зямельных і калгасных органаў, а таксама і цэнтральных дасьледчых установ. Трэба рашуча паставіць пытаньне, каб Інстытут сацыялістычнай рэканструкцыі сельскае гаспадаркі і дасьледчыя станцыі бліжэй павярнуліся да масавых дасьледчых арганізацый, дапамаглі ім паставіць належным чынам працу, забясьпечыць мэтадамі і інструкцыйным матар'ялам, навуковай кансультацыяй і г. д.

Да гэта-ж часу дзяржаўныя навукова-дасьледчыя ўстановы яшчэ амаль зусім ня зьвязаны з масавымі навукова-дасьледчымі арганізацыямі і не дапамагаюць у іх працы. Калгасцэнтр па сваёй лініі павінен даць катэгарычныя ўказаньні райкалгассаюзам і праўленьням калгасаў аб актыўнай дапамозе і праяўленьні ініцыятывы з свайго боку ў справе арганізацыі краязнаўчых ячэек (ячэек масавай навукова-дасьледчай працы) у калгасах. Трэба, каб праца гэтых ячэек зьяўлялася сустаўной часткаю і ўваходзіла ў агульны плян працы калгасаў і райкалгассаюзаў.

Калгасныя краязнаўчыя ячэйкі (з шырокім прыцягненьнем у іх аграномаў, кіраўнікоў розных галін гаспадаркі, брыгадзіраў, вынаходцаў, ударнікаў-калгасьнікаў, настаўніцтва) павінны быць не выпадковымі прыдаткамі да калгасаў, а іх арганічнымі часткамі. Краязнаўчыя ячэйкі павінны ставіць і вывучаць вопыт у розных галінах калектыўнай гаспадаркі, папулярызаваць вынікі добра пастаўленага вопыту, прымаць актыўны ўдзел у прапрацоўцы вытворчых плянаў і падводзіць навуковы грунт па будаўніцтву кожнай калектыўнай гаспадаркі.

Недаацэнка масавай навукова-дасьледчай работы, ігнараваньне яе, замест дапамогі пярвічным масавым дасьледчым арганізацыям, ёсьць праяўленьне найгоршага апартунізму, які вядзе да зьніжэньня посьпехаў сацыялістычнага будаўніцтва і мяжуецца з шкодніцтвам.

**Правільная арганізацыя працы ў калгасах і падвышэньне яе прадукцыйнасьці зьяўляецца ў сучасны момант асноўным зьвяном у калгасным будаўніцтве.**

Правядзеньне другой бальшавіцкай сяўбы і, асабліва, уборачнай кампаніі, далі нам вялікія дасягненьні ў пераходзе пераважнай большасьці калгасаў на зьдзельную арганізацыю працы, брыгада становіцца ўжо асноўнай вытворчай ячэйкай у калгасе. „**Вопыт работы значнай часткі калгасаў паказаў, што там, дзе добра і правільна была арганізавана праца, там вышэй прадукцыйнасьць працы, своечасова выконваюцца вытворчыя зададаньні, менш было страт, большая атрымана даходнасьць**“ (з пастановы пленуму ЦК КП(б)Б). Аднак „**у значнай частцы калгасаў зьдзельшчына існуе фармальна, на справе пануе падзёншчына**“ падкрэсьлівае пленум.

Лепшы вопыт правядзеньня зьдзельшчыны вельмі слаба вывучаецца, а таму і мала папулярызуецца сярод калгасных мас. Задача дасканалага і сыстэматычнага вывучэньня і выяўленьня лепшага вопыту перадавых калгасаў у справе арганізацыі працы павінна стаць аднэй з галоўнейшых задач у працы ўсіх краязнаўчых ячэек.

Масавая дасьледчая праца ў галіне вывучэньня арганізацыі працы ў калгасе павінна праводзіцца ў напрамку вывучэньня:

а) норм фактычнай выпрацоўкі лепшых перадавых калгасьнікаў (у жывёлагадоўчых, ільнаводных, садова гародных калгасах і інш.); б) сталага і найбольш адпаведнага складу асноўнага ядра брыгад, як для выкананьня паасобных працэсаў працы, так і для выкананьня шэрагу зьвязаных паміж сабой працэсаў сельскагаспадарчых работ (пасеў, догляд, уборка, абмалот, касьба, сушэньне сена, возка яго і складаньне ў пуні, у стагі); в) найлепшых умоў пераводу ўсіх відаў работ на прагрэсыўна-прэміяльную зьдзельную працу і абгаварэньне вынікаў гэтага пераводу; г) правільнай арганізацыі ўліку працы ў працаднёх і правільнага разьмеркаваньня даходаў па прынцыпу колькасьці і якасьці працы; д) правільнай арганізацыі адыходніцтва, як аднаго з важнейшых мерапрыемстваў па арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньні калгасаў.

У справе арганізацыйнага ўмацаваньня калгасаў неабходна разгарнуць вялізарную і сур'ёзную навукова-дасьледчую працу, арганізаваўшы і ўцягнуўшы ў гэту працу шырокія калгасныя масы. Навукова-дасьледчыя арганізацыі сумесна з практычнымі пра-

цаўнікамі ў галіне калгаснага будаўніцтва павінны шмат яшчэ прапрацаваць над пытаньнем палепшаньня арганізацыі калгаснай брыгады і зьдзельшчыны, каб канчаткова дабіць ураўнілаўку і абязьлічку, якія стаяць на шляху гаспадарчага ўмацаваньня калгасаў.

Перад масавымі навукова-дасьледчымі арганізацыямі стаіць вялікая задача вывучыць, як ажыцьцяўляюцца і як у колгасах можна найлепш ажыцьцявіць шэсьць умоў правадыра партыі тав. Сталіна, якія забясьпечваюць выкананьне вытворчых плянаў і арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня калгасаў. Краязнаўчыя ячэйкі ў калгасах, пры дапамозе адпаведных цэнтральных навукова-дасьледчых устаноў, павінны дапамагчы кіраўніцтву калгасаў, палепшыць нормаваньне і плянаваньне працы, устанавіць больш рацыянальнае і эканомнае выкарыстаньне сваёй рабочай сілы.

Выключнае значэньне ў справе арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня калгасаў мае асваеньне тэхнікі кожным калгасам. Аўладаньне тэхнікай і правільнае выкарыстаньне сельска-гаспадарчых машын у калгасе зьяўляецца адным з найважнейшых фактараў барацьбы за прадукцыйнасьць і якасьць працы. Масавыя дасьледчыя арганізацыі павінны зьвярнуць максымум увагі на вывучэньне найлепшага і найбольш рацыянальнага выкарыстаньня машын (асабліва складаных), якімі ўсё больш і больш забясьпечваюцца калгасы.

Яшчэ ня ўсе калгасы ў аднолькавай меры аўладалі арганізацыяй вытворчасьці буйнай калектыўнай гаспадаркі, ня ўсе аднолькава аўладалі тэхналёгічнымі працэсамі вытворчасьці ў паасобных спэцыялізаваных гаспадарках. Краязнаўчыя арганізацыі павінны зараз жа павясьці рашучы наступ на тэхнічную адсталасьць нашай сельскай гаспадаркі, павінны дапамагчы калгасьнікам аўладаць агра-зоотэхнікай.

Краязнаўчыя ячэйкі павінны ўзяць на сябе ініцыятыву арганізацыі ў калгасах спэцыяльных агра і зоотэхнічных гурткоў, арганізаваць даклады, лекцыі, выстаўкі, каб дапамагчы калгасьнікам аўладаць „у найбольш кароткі тэрмін тэхнікай вядзеньня буйной сацыялістычнай гаспадаркі, агранамічнымі ведамі, тэхнікай поўнага скарыстаньня сельскагаспадарчых машын і самага шырокага ўжываньня дасягненьняў агранамічнай навукі“.

Да гэтай працы павінны быць прыцягнуты аграномы, настаўнікі, спэцыялісты-кіраўнікі паасобнымі галінамі гаспадаркі.

Трэба краязнаўчым арганізацыям па-сапраўднаму ўключыцца ў барацьбу за выкананьне пляну разьвіцьця сацыялістычнай жывёлагадоўлі шляхам сыстэматычнай папулярызацыі і перадачы калгасам вопыту перадавых жывёлагадоўчых калгасаў і саўгасаў прапаганды зоотэхнічных ведаў і арганізацыі сыстэматычнай дасьледчай працы. Краязнаўчыя арганізацыі павінны заняцца вывучэньнем наступных пытаньняў жывёлагадоўлі: найлепшыя мэтады ўкамплектаваньня статку (захаваньне і гадоўля ўласнага прыплоду, барацьба за павялічэньне прыплоду, прафіляктычныя мерапрыемствы супроць падзяжу, інш. мерапрыемствы барацьбы са стратамі ў жывёлагадоўлі); стварэньне ў калгасах моцнай кармавой базы, падвышэньне ўраджайнасьці палявых культур, арганізацыя штучных выпасаў, палепшаньне сенажацяй, пашырэньне плошчы пасеваў, захаваньне і найбольш рацыянальнае выкарыстаньне кармавых траў і караньплодаў, эканомнае выдаткаваньне кармоў, вывучэньне і праверка існуючых кармавых рацыёнаў і г. д.; правядзеньне мэханізацыі і рацыяналізатарскіх мерапрыемстваў у жывёлагадоўчых гаспадарках; палепшаньне будаўніцтва і найбольш адпаведнае ўтрыманьне жывёлы; максымальнае павялічэньне таварнасьці і выкананьне плянаў па здачы (продажу) дзяржаве таварнай прадукцыі; ліквідацыя абязьлічкі.

Барацьба за павялічэньне ўраджайнасьці зьяўляецца адной з неабходнейшых і важнейшых умоў арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня калгасаў. Аб'яднаны лістападаўскі пленум абавязаў партыйныя арганізацыі, зямельныя і калгасныя органы па-бальшавіцку разгарнуць работу па мабілізацыі ўсіх партыйных і камсамольскіх сіл, калгасных мас, спэцыялістаў і ўсіх работнікаў сацыялістычнага земляробства на практычнае вырашэньне задачы па ўздыму ўраджайнасьці, для чаго:

**„Шырака ўкараняць правільныя севазвароты, палепшыць апрацоўку глебы, арганізаваць правільны догляд за пасевамі, забясьпечыць абавязкова поўную праполку тэхнічных і прапашных культур, раньнюю сяўбу і своячасовую ўборку, барацьба са шкоднікамі і са стратамі, абавязковае выкананьне задачы пад'ёму на зяб усёй плошчы вызначанай для пасеву яравых, рашучае пашырэньне засеву гатунковым насеньнем, шырока разгарнуць сэлекцыйную работу, поўнае скарыстаньне штучных і мясцовых угнаеньняў, асабліва торфу“** (з пастановы лістападаўскага пленуму).

Краязнаўчыя ячэйкі павінны вывучыць увесь комплекс умоў, выявіць усе магчымасьці, якія забясьпечваюць максымальнае павялічэньне ўраджайнасьці. Масавая дасьледчая работа ў калгасе павінна праходзіць пад знакам вывучэньня вынікаў ужываньня правільных севазваротаў, найлепшых спосабаў апрацоўкі і ўгнаеньня глебы, скарыстаньня мясцовых угнаеньняў да вывучэньня і арганізацыі найлепшага догляду і вырошчваньня розных сельскагаспадарчых культур, барацьбы са шкоднікамі сельскае гаспадаркі і інш.

Толькі па-бальшавіцку ажыцьцяўляючы задачу арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня калгасаў, вядучы рашучую барацьбу за генэральную лінію партыі, мы зможам дамагчыся стварэньня і разьвіцьця высокатаварнай калектыўнай вытворчасьці, завяршыць суцэльную калектывізацыю і канчаткова ліквідаваць кулацтва як клясу. На выкананьне гэтых баявых задач павінны быць мабілізаваны ўсе сілы масавых навукова-дасьледчых арганізацый.

**В. Самцэвіч.**

**Усе культурныя сілы на пасьпяховае правядзеньне 3-яй бальшавіцкай вясны!**

# ВУЧЫЦЦА ЗМАГАЦЦА ЗА МОЦНЫ КАЛГАС У ВАРАШЫЛАУЦАЎ

### Цьвёрдым поступам да новых перамог

15-га красавіка 1931 году ў вёсцы Сяльцы 16 гаспадарак, з іх 8 яўрэйскіх і 8 беларускіх, арганізавалі калгас імя Варашылава. А праз некалькі дзён калгасьнікі выйшлі на поле руйнаваць межы.

Пільна сачылі за гэтым бурлівым жыцьцём рэшта бядняцка-серадняцкіх гаспадарак. Кулакі і заможнікі абрушыліся на малады калгас. Пачалося натраўліваньне нацыі на нацыю: беларусоў на яўрэяў, яўрэяў на беларусоў. Розныя мэтады ўжывалі кулакі, каб падарваць калгас. Але ня гледзячы на гэта, малады калгас моцна стаў на ўказаны партыяй шлях. Калгасьнікі яшчэ больш згуртаваліся вакол партыі, моцна трымаліся за пачатую справу, рашуча адбіваючы атакі клясавага ворага.

Перамога засталася за 16-цю. Праз некалькі дзён калгас стаў папаўняцца новай сілай. З пачатку далучаецца 6 гаспадарак, праз некаторы час 15 і яшчэ—16. На сёнешні дзень у калгасе налічваецца 53 бядняцка-серадняцкіх гаспадаркі, з якіх 21 яўрэйская і астатнія—беларускія. Зямельная плошча калгасу складае 290 *га*, з іх 40 *га* сенажаці. Працаздольных 150 чалавек.

Пад кіраўніцтвам мясцовых і раённых партыйных і савецкіх арганізацый варашылаўцы, моцна згуртаваўшыся, расьлі і мацнелі. Зараз яны стаяць цьвёрда на шляху рэалізацыі рашэньняў партыі па арганізацыйна-гаспадарчаму замацаваньню калгасу.

### Вышлі ў першыя шэрагі

Праўленьне калгасу, пад кіраўніцтвам партыйнай ячэйкі і сельсавету, мабілізаваўшы калгасныя масы на няпрымірымую барацьбу за генэральную лінію партыі супроць правых і „левых" апартуністаў, на рашучую і бязьлітасную барацьбу з кулацтвам, дабілася вялікіх перамог на фронце арганізацыйна-гаспадарчага замацаваньня калгасу.

Калгас Варашылава за пасьпяховае правядзеньне гаспадарча-палітычных кампаній па раёну атрымаў першую прэмію.

### Першы экзамен вытрыман

Шырока прапрацаваўшы пастанову VI Зьезду Саветаў, калгас з першых дзён палявых работ па ўсіх галінах работы ўвёў зьдзельшчыну, ацэненую ў працаднёх. Перад выхадам на палявую працу калгасам была выпрацавана праграма работы, а таксама прапрацованы і прыняты нормы выпрацоўкі. Як праграма, так і прыкладныя нормы шырока былі абгавораны на праўленьні калгасу, па брыгадах і на агульным сходзе калгасьнікаў.

Увесну 70 проц. рабочае сілы было паслана на адыходніцтва. Застаўшыяся калгасьнікі, ня гледзячы на тое, што не хапала рабочых на 250 працадзён, з работай справіліся.

### Зьдзельшчына перамагла

Закіпела праца веснавой пасеўкампаніі. Кожны калгасьнік хацеў быць першым. Разгортваецца ўдарная работа.

Перадавікі выходзяць на штурм барацьбы за датэрміновае выкананьне пляну пасеўнай, разгортваюць спаборніцтва і ўдарніцтва, падцягваюць адстаючых. З тымі, якія сымулююць, ня выходзяць своечасова на работу, перадавымі калгасьнікамі вядзецца бязьлітасная барацьба.

Фронт выроўніваецца. Працуюць усе мужчыны, жанчыны і падлеткі.

Норма для аднаго калгасьніка пасеяць за дзень 2 *га*. Дзённая работа паказала, што шэраг калгасьнікаў, як т. т. Міронаў, Лаўрэнаў, Баравікоў перавыконваюць свае нормы, — яны замест 2-х *га* засяваюць 2 з паловай.

Калгасьнікі, бачачы ўзрастаючы энтузіязм перадавікоў, высоўваюць перад праўленьнем прапанову—паслаць у заработкі брыгаду, каб заробленымі сродкамі дапамагчы калгасу ў яго гаспадарчым разьвіцьці. На агульным сходзе гэта прапанова прымаецца. На шоўкавую фабрыку пасылаецца брыгада з 7 чалавек з коньмі. Вылучаная брыгада бярэ на сябе абавязацельства ўсе выпрацаваныя грошы здаць калгасу, а за працу, каб ім залічвалі працадзень, ды адлічвалі ім 1 руб. на палепшаньне харчаваньня. Застаўшыяся калгасьнікі ў адказ на гэта бяруць абавязацельствы пасьпяхова справіцца з работай.

Ня гледзячы на значны недахоп рабочае сілы, калгасьнікі на аснове зьдзельшчыны, разгорнутага спаборніцтва і ўдарніцтва, веснавую пасеўную кампанію канчаюць у тэрмін з перавыкананьнем пляну на 10 *га*. Яны замест вызначаных для пасеўнай кампаніі 600 працадзён, затрацілі ўсяго 400 працадзён.

### Брыгада апраўдала сябе

Пасланая на шоўкавую фабрыку ўдарная брыгада з 7-мі чалавек да прыкладанага разьмеркаваньня даходаў зарабіла (грошы поўнасьцю здадзены калгасу) 7524 руб. 79 кап. Гэта дало магчымасьць калгасу набыць шэраг сельска-гаспадарчых машын, набыць жывёлу і інш. інвэнтар. Для большага стымуляваньня тэмпаў барацьбы за пасьпяховае выкананьне плянавых заданьняў калгасу, калгас рабіў выдачу авансаў грашыма выключна па колькасьці і якасьці працы, што яшчэ вышэй узьняло энтузіязм і актыўнасьць калгасьнікаў.

### Справіліся пасьпяхова з уборкай і асеньняй сяўбой

Перад уборкай праўленьне калгасу шырока прапрацавала разам з калгасьнікамі нормы зьдзельшчыны па ўборцы, узброіўшы кожнага калгасьніка добрым уяўленьнем зьдзельшчыны, нормай яе, прымацаваўшы кожнага калгасьніка да пэўнага вучастку работ, калгас прыступіў да ўборкі. Дзякуючы гэтаму ўборка скончана своечасова і ніводная культура на полі не засталася.

У тэрмін скончана і асеньняя пасеўкампанія. Замест плянавых 50 *га* пасеена 55.

Вялікую дапамогу калгас меў дзякуючы арганізацыі ясьляў. Арганізацыя ясьляў дала магчымасьць калгасу поўнасьцю скарыстаць жанчыну на рабоце.

### Пасадзілі сад

Пасьля сканчэньня палявых работ перад калгасам паўстала новая задача—пасадка 15 *га* саду. Калгасьнікі для выкананьня гэтае работы, вылучаюць брыгаду з 5 чалавек. Кожнаму брыгадзіру вызначаецца аб'ект работы, шырока растлумачваюцца кожнаму калгасьніку задачы спэцыялізацыі гаспадаркі. Дружна ўзяліся калгасьнікі за работу і, на аснове сацспаборніцтва і ўдарніцтва, тэрмін пасадкі саду скарачаецца на 10 дзён. Да зімоўкі сад падрыхтаваны: усе дрэвы абвязаны, абгледжаны, прыведзены ў належны парадак.

Акрамя пасаджанага саду плянам было яшчэ вызнана пасадзіць 3 *га* ягадніку. Для выкананьня гэтае работы патрабавалася 100 працадзён. Перад калгасам паўстала пытаньне, што з гэтай работай справіцца цяжка. Але ня губляюць ударнікі веры—яны вышукваюць шляхі вынаходніцтва. Дэталёва абмеркаваўшы пытаньне, старшыня калгасу т. Скобалеў уносіць прапанову, каб пасадку ягадніка рабіць за плугам. Прапанова была адобрана аграномам садаводам. Гэта дало эканомію калгасу ў затраце рабочай сілы на 70 працадзён (замест вызначаных 100 працадзён пасадка была за 30 проц.).

### Чаму калгас датэрмінова з перавыкананьнем пляну скончыў загатоўкі

Праўленьне калгасу добра ўявіла сабе, што бяз масава-растлумачальна-палітычнай работы, без мабілізацыі калгасных мас немагчыма пасьпяховае правядзеньне загатовак. Былі ўлічаны ўсе ўнутраныя рэсурсы калгасу, пасьля чаго пытаньне аб хлебазагатоўках было абгаворана на праўленьні калгасу.

Маючы ў наяўнасьці ўсе лічбы па хлебу, праўленьне прымае ня толькі дадзенае кантрольнае заданьне, а высоўвае сустрэчны плян хлебазагатовак. Замест плянавых 33 *цнт* прымаецца сустрэчны плян у 48 *цнт*.

Праз некалькі дзён гэтае пытаньне абгаварваецца на агульным сходзе калгасьнікаў і сход зацьвярджае сустрэчны плян.

Аднак, у часе здачы (продажу) дзяржаве хлеба выявіліся яшчэ большыя рэсурсы. Замест 48 *цнт* па сустрэчнаму пляну, калгасам здадзена 57 *цнт* збожжа, бульбы замест заданьня 9600 *кг* здадзена 24000 *кг*, ільна семя замест 3 *цнт* здадзена 4 *цнт*, ільнатрасты плянавае заданьне ў 17 *цнт* — выканана поўнасьцю, канаплі семя заданьне было 3 *цнт*— здадзена 5 *цнт*. Плян па сену перавыканан на 3 *цнт*. Поўнасьцю выканан плян і па здачы гародніны.

### Фінплян выканан датэрмінова

Па баявому калгас рэалізаваў дырэктывы партыі і ўраду па мабілізацыі сродкаў. Страхоўка ў суме 273 руб. 30 кап., падатак у суме 228 руб. 60 кап., крэдыт у суме 481 р. калгасам унесены датэрмінова. Пазыкі рэалізавана сярод калгасьнікаў на 860 руб., з якіх унесена грашыма для выкупу аблігацыі 750 руб. Акцый Трактарацэнтра набыта на 500 руб., машынных абавязацельстваў на 200 р. (па пляну зусім ня было).

### Догляд за цялятамі на вышыні

Сапраўды бальшавіцкія прыклады барацьбы варашылаўцы паказваюць па выкананьні важнейшых дырэктыў партыі і ўраду аб разьвіцьці сацыялістычнай жёвёлагадоўлі. Калгасу нададзен жывёлагадоўчы ўхіл. У гэтым годзе арганізавана фэрма па гадоўлі цялят, па пляну патрэбна ўкамплектаваць 15 штук. Атрымаўшы гэтае баявое заданьне калгасьнікі па-бальшавіцку ўзяліся за рэалізацыю яго. Калгасам у першую чаргу была мабілізавана ўвага калгасьнікаў на выкарыстоўваньне мясцовых рэсурсаў. Разгарнуўшы масавую работу па закупцы цялят у калгасьнікаў і ваколічнага насельніцтва калгас укамплектаваньне цялят скончыў 15 кастрычніка (датэрмінова на 15 дзён) з перавыкананьнем пляну на 5 штук. Калгас на гэтым не супакойваецца. Барацьба за ўкамплектаваньне разгортваецца далей і на сёнешні дзень укамплектавана цялят 32 штук. Зараз плян камплектаваньня павялічан да 50 штук. Прыняты шырокія захады па выкананьні дадатковага пляну.

Догляд за цялятамі пастаўлен на вышыню. Кормяцца цяляты рэгулярна, хлеў ацеплен. Даглядаць цяляты прымацаваны два калгасьнікі.

Хлявы для коняй таксама добра ацеплены. Коні разьбіты на дзьве групы — лепшыя і горшыя. Гэта зроблена з той мэтай, каб эканомна скарыстоўваць кармы, каб лепей карміць тыя коні, якія больш працуюць. У доглядзе за коньмі, як і за цялятамі, поўнасьцю ліквідавана абязьлічка.

### Калгас набывае машыны

У першыя дні работы цяжка было працаваць на полі бяз ніводнае сельска-гаспадарчае машыны. Калгас меў некалькі плугоў, ды і тыя ў большасьці драўляныя.

На прыбыткі ад адыходніцтва калгас набыў значную колькасьць сельска-гаспадарчых машын і інвэнтару.

### З сваёй работай справіліся і другім калгасам дапамаглі

Як скончылі сваю работу, дык каб ня губляць дарэмна часу і поўнасьцю скарыстаць рабочую сілу, калгас дапамог адстаючым калгасам. Калгасу „Вэкер" і імя 1-га мая, варашылаўцы ў час уборачнай і пасеўнай кампаніі далі рабочую сілу і машыны. Была аказана гэтым калгасам дапамога і па малацьбе.

У калгас „Чырвоны Сормавец" па ліквідацыю прарыву ў сіласаваньні пасылалася на тры дні брыгада з 10 чалавек і цягавая сіла.

Значную дапамогу аказаў калгас і аднаасобным бядняцка-серадняцкім гаспадаркам.

Прыкладнае разьмеркаваньне даходаў па калгасу скончана 18 кастрычніка. Усе калгасьнікі на сёнешні дзень з належачай ім прыбаўкі атрымалі дзьве трэція часткі. Разьмеркаваньне праведзена выключна па колькасьці і якасьці працы.

### Лепшыя ўдарнікі

Лепшымі ўдарнікамі лічацца **Міронаў П.**, **Каган Хаім, Цэйтлін Нохім, Лаўрэнаў і Баравікоў**. Яны паказваюць узоры добраякаснай і ўдарнай работы.

Так, адзін з іх—Міронаў П. за ўвесь час работы ня мае ніводнага прагулу, зьяўляецца лепшым ударнікам. Свае нормы зьдзельшчыны ён значна перавыконвае. Напрыклад, норма па сяўбе была 2 *га*, а ён засяваў $2^1/_2$, а часам і 3 *га*. У час малацьбы, каб своечасова выканаць хлебазагатоўкі, Міронаў днём малаціў, а ночу добраахвотна ішоў веяць.

### Замацаваць, множыць дасягнутыя посьпехі

Такіх вялізарных посьпехаў у барацьбе за арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў варашылаўцы дасягнулі, дзякуючы дасканаламу ўвядзеньню зьдзельшчыны, выразнаму вучоту калгаснай працы і поўнаму скарыстаньню рабочай сілы, ліквідацыі абязьлічкі, прымяненьню новых мэтадаў сацыялістычнай працы сацспаборніцтва і ўдарніцтва, дзякуючы бязьлітаснай барацьбе з гультаямі, прагульшчыкамі і сымулянтамі.

Разам з вялікімі дасягненьнямі калгас мае і недахопы. Значная частка калгасьнікаў яшчэ не ахоплена сацспаборніцтвам і ўдарніцтвам. Не вядзецца калгасам сталы ўлік ударніцтва, няпоўнасьцю ліквідавана яшчэ абязьлічка, несвоечасова запісваюцца працадні ў кніжцы, мала вядзецца праўленьнем культурная работа сярод калгасьнікаў. Не разгорнута як сьлед падрыхтоўка да веснавой пасеўнай кампаніі.

Работа калгасу Варашылава ў барацьбе за арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасу заслугоўвае вялікай увагі. Варашылаўцы павінны замацаваць, множыць дасягнутыя посьпехі і не на хвіліну не паслабляць барацьбы за арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў і на гэтай аснове весьці працу па далейшай калектывізацыі бядняцка-серадняцкіх гаспадарак.

Рэшта калгасаў раёну павінны скарыстаць вопыт работы калгасу Варашылава, мабілізаваўшы ўсе сілы на замацаваньне калгаснае гаспадаркі.

**Ал. Сянькевіч.**

# ПЕРАДАВЫЯ КАЛГАСЫ ПОЛАЧЧЫНЫ

Змаганьне за арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў і на аснове гэтага барацьба за новы калгасны прыліў — стала першараднай задачай некаторых партыйных і камсамольскіх арганізацый Полацкага раёну ў штодзенным калгасным жыцьці.

Так, напрыклад, партячэйкай калгасу „Новае жыцьцё“ на чале з сакратаром ячэйкі Цацэнкам праведзена вялікая работа па арганізацыйна-гаспадарчаму ўмацаваньню калгасу і выкананьню плянаў збожжанарыхтовак. Рэзультатам добра праведзенае работы партыйнай ячэйкі зьяўляецца тое, што на сёнешні дзень у калгасе поўнасьцю ліквідавана абязьлічка і ўраўнілаўка, усе работы пераведзены на зьдзельную аплату працы, наладжан правільны запіс і вучот выпрацаваных працадзён, арганізаваны сталыя брыгады па догляду за жывёлай, малацьбе збожжа, апрацоўка ільну і інш.

Гэтыя брыгады на аснове сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва дасягнулі значных посьпехаў у сваёй рабоце.

Разьмеркаваньне даходаў і ўраджаю праведзена выключна па прынцыпу „Хто больш і лепш працуе, той больш і атрымлівае“.

Плян нарыхтовак збожжа калгасам выканаў на 100 проц., а па некаторых культурах, як жыта, перавыкананы на 12 проц. Гэтыя дасягненьні калгасу „Новае жыцьцё“ тлумачацца чоткім партыйным кіраўніцтвам у штодзенным яго жыцьці.

Калгас „Кім“ дзякуючы жывому партыйнаму кіраўніцтву плян нарыхтовак усіх відаў выканаў на 100 проц. Аднак, ня спыняючыся на дасягнутых посьпехах, калгасьнікі калгасу „КІМ“ першымі ў раёне ўключыліся ў дэкаднік штурму прарываў у нарыхтоўках, абвешчаны раённым камітэтам партыі. На агульным сходзе калгасьнікі пастанавілі: здаць (прадаць) дзяржаве звыш пляну 15 *цнт* збожжа з ліку разьмеркаванага паміж калгасьнікамі ўраджаю.

Гэтую пастанову „Кімаўцы“ выканалі з гонарам.

Плянавае заданьне па здачы жыта калгас „Авангард“ перавыканаў на 4 *цнт*, па аўсу на 1,35 *цнт* і набліжаецца да выкананьня пляну загатовак ільну.

Звыш пляну калгас „Завет Леніна“ здаў (прадаў) дзяржаве 2 *цнт* ячменю, 2,32 *цнт* аўса і 25 *цнт* бульбы.

Калгас „Свабода“ па пляну павінен быў здаць 46 *цнт* збожжа, але дзякуючы кіраўніцтву партячэйкі і актыўнасьці саміх калгасьнікаў здадзена 60 *цнт*.

Поўнасьцю і ў тэрмін выканаў плян збожжанарыхтовак калгас „Чырвоны Араты“, а па шэрагу культур (жыту, аўсу, ячменю) заданьне ім перавыканана на 20 проц.

Калгас імя Валадарскага да 20-га лістапада плян загатовак збожжа і ільнавалакна выканаў на 100 проц.

Побач з перадавымі калгасамі трэба адзначыць адстаючыя. Напрыклад, калгас імя Дзяржынскага (самы буйны калгас у раёне, яднае звыш 100 гаспадарак) дагэтуль не закончыў абмалот збожжа і апрацоўку ільну. У калгасе адсутнічае працдысцыпліна. Няма правільнага вучоту працы. Не разьмеркаваны прыбыткі і ўраджай. Усё гэта тлумачыцца тым, што ні партячэйка, ні праўленьне калгасу не ўзяліся, як сьлед, за арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгаснае гаспадаркі.

Перадавыя калгасы Полаччыны павінны ўзяць адстаючыя калгасы на грамадзкі буксір і дабіцца карэннага пералому ў іх арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньні.

Распачатая падрыхтоўка да вясны павінна даць пераможныя вынікі.

**Мікола Камунны.**

## ЗАМАЦАВАЦЬ І ПАШЫРЫЦЬ ДАСЯГНУТЫЯ ПОСЬПЕХІ

*(Магілеўскі раён)*

У штодзеннай барацьбе за сваё арганізацыйна-гаспадарчае замацаваньне калгас „Камінтэрн“ дабіўся вялікіх посьпехаў як у выкананьні гаспадарча-палітычных кампаній, так і ў колькасным росьце. Зараз у калгасе налічваецца 139 бядняцка-серадняцкіх гаспадарак.

Плян хлебазагатовак калгас перавыканаў на 48 пр. Па мабілізацыі сродкаў таксама ідзе ўперадзе. Усе абавязковыя плацяжы, як сельгаспадатак, страхоўка і самаабкладаньне ўнесены датэрмінова. Рэалізацыя пазыкі „3 ці рашаючы год пяцігодкі“ перавыканана (замест патрэбных па пляну рэалізаваць 1700 руб. рэалізавана на 2520 руб.). Узносы па ёй поўнасьцю ўнесены. Заданьне па акцыях Трактарацэнтру і машынных абавязацельствах выканана. Калгасу нададзен садова-жывёлагадоўчы ухіл. У гэтым годзе пасаджана саду 40 *га*. Маладыя дрэвы добра дагледжаны на зіму. Калгасам пастаўлена 159 сьвіней. Поўнасьцю для жывёлы зроблена на зімоўку цёплае памяшканьне.

Цяпер калгас па ініцыятыве брыгады, што была выслана раённай газэтай „Камунар Магілеўшчыны“ наладзіў выпуск насьценгазэты. Зараз трэба толькі мабілізаваць калгасныя масы на замацаваньне штодзеннага выпуску насьценгазэты.

У калгасе ва ўсю шырыню разгорнуты сацспаборніцтва і ўдарніцтва. Прыкладам штодзеннай барацьбы за арганізацыйна-гаспадарчае замацаваньне калгасу, за правільную арганізацыю працы, за высокі ўраджай, калгас „Камінтэрн“ павінен і надалей быць у перадавых шэрагах змагароў за ажыцьцяўленьне дырэктыў партыі і ўраду.

**Гэця Модлін.**

## РАЙКАЛГАССАЮЗ ЗАЦЯГВАЕ З РАЗЬМЕРКАВАНЬНЕМ УРАДЖАЮ

*(Рагачоўскі раён)*

Правільнае разьмеркаваньне прыбытку і ўраджаю ў калгасах па прынцыпу „Хто больш і лепш працуе, той больш і атрымлівае“ — адно з важнейшых зьвеньняў арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня калгасаў. Між тым, гэтага ўпарта не жадае зразумець Рагачоўскі райкалгассаюз.

Разьмеркаваньне прыбыткаў і ўраджаю па калгасах Рагачоўшчыны праходзіць недапушчальна маруднымі тэмпамі. Райкалгассаюз недаацэньвае палітычнага значэньня правільнага і сваячасовага разьмеркаваньня ўраджаю ў калгасах, як магутнага вагара гаспадарчага і арганізацыйнага ўмацаваньня калгаснае вытворчасьці. Райкалгассаюз, правёўшы працу па папярэднім разьмеркаваньні ўраджаю па 99 калгасах раёну на гэтым супакоіўся. У астатніх 28 калгасах раёну справа разьмеркаваньня ўраджаю пушчана на хвалі апартуністычнага самацёку. Некаторыя працаўнікі калгассаюзу разважаюць так:

„Галоўная наша мэта правесьці разьмеркаваньне ўраджаю ў калгасах з абагуленымі пасевамі“.

У выніку такога апартуністычнадзяляцкага падыходу працаўнікоў калгассаюзу да гэтай важнейшай справы, па раёну ёсьць рад калгасаў, якія на 20 сьнежня да разьмеркаваньня ўраджаю яшчэ не прыступілі. Калгасы: імя Будзённага, „Полымя“, „3-ці рашаючы“, „Дуброва“ і рад другіх разьмяркоўваць ураджай яшчэ не пачыналі. У некаторых калгасах раёну пры разьмеркаваньні ўраджаю допушчаны грубыя скажэньні дырэктыў партыі і ўраду па гэтым пытаньні. Так, у калгасе імя „1-е мая“, Запольскага сельсавету ўраджай бульбы разьмяркован па прынцыпе кулацкайураўнілаўкі: кожны калгасьнік (незалежна ад таго, колькі працадзён ён выпрацаваў) атрымаў па тры вазы бульбы. Калгас „Шлях селяніна“ праявіў рвацкамесьніцкія тэндэнцыі — ён 64 проц. усяго ўраджаю ільнатрасты разьмеркаваў паміж калгасьнікамі і толькі 36 проц. здаў (прадаў) дзяржаве, такія-ж самыя выпадкі наглядаюцца ў калгасах „Эмес“ і „Ударнік“.

Такога становішча надалей быць не павінна!

Патрэбна з усёй рашучасьцю ўдарыць па кулацкай практыцы праўленьняў вышэй памянёных калгасаў.

Разьмеркаваньне ўраджаю па прынцыпу „Хто больш і лепш працуе, той больш і атрымлівае“, трэба правесьці ў максымальна кароткі тэрмін.

Апартуністычнай недаацэнцы разьмеркаваньня ўраджаю з боку Рагачоўскага райкалгассаюзу патрэбна пакласьці канец.

**Клімовіч Янка.**



Рамонт трактароў

# Больш увагі канягадоўлі!

## Рыхтаваць каня да сяўбы

Мэханізацыя і трактарызацыя сельскай гаспадаркі ў асноўным вырашае задачу стварэньня высокапрадукцыйнай, высокатаварнай калектыўнай гаспадаркі. Разьвіцьцё тэхнікі ў асноўным паскарае вырашэньне задачы перавыхаваньня калгасьніка. „Гэта будзе зроблена тым хутчэй, чым хутчэй будуць калгасы мэханізаваны, чым хутчэй будуць яны трактарызаваны“ (Сталін).

Мэханізацыя і маторызацыя (трактарызацыя) у асноўным яшчэ больш падвышае бояздольнасьць Чырвонай арміі і абароназдольнасьць нашай краіны наогул.

Але зусім няправільна і шкодна рабіць з сказанага той вывад, што побач з мэханізацыяй і маторызацыяй калгасаў, саўгасаў і Чырвонай арміі зусім адпадаюць клопаты аб кані, дбайнасьць аб канягадоўлі, клопаты аб коннай цягавай сіле. Такая пастаноўка пытаньня зьяўляецца бязумоўна шкоднай, кулацкай.

У сучасны момант конь у нас займае асноўнае месца сярод усіх работ, у сельскай гаспадарцы і ў гарадзкім транспарце, у лесазагатоўках і г. д. Але ж справа ня толькі ў гэтым. Справа ў правільнай сыстэме злучэньня каня з маторам. Гэта датычыцца і сельскай гаспадаркі і арміі.

Правільнае спалучэньне конскай цягавай сілы і трактара ў рабоце—значна павышае вытворчасьць і першага і другога. Па многіх раёнах СССР гэта ўжо даказана на вопыце. Так, па Паўночна-Каўкаскаму краю, у раёнах абслугоўваньня калгасаў МТС, нагрузка на аднаго каня складала ў гэтым годзе 11,4 *га*, а ў раёнах, дзе МТС ня было—толькі 7,6 *га*. Гэта значыць наяўнасьць трактароў і правільнае скарыстаньне камбінацыі трактара і каня павысіла вытворчасьць коняй на 3,8 *га* на галаву.



Тое-ж наглядаецца і па Сярэдняй Волзе, дзе гэтыя лічбы складаюцца адпаведна—10,7 і 7,8 *га*, і па цэнтральнай чорназемнай вобласьці—7,7 і 3,3 *га*.

### Лёс каня за мяжой

У нас нярэдка прыходзіцца чуць разважаньні аб тым, што за мяжой, у буржуазных краінах, конь аджыў, што там конь зусім выводзіцца з арміі, у прыватнасьці прызнаны зусім непатрэбным у кавалерыі.

Такія разважаньні распаўсюджваюцца кулацкімі элемэнтамі, а ўсьлед за імі паўтараюцца асобамі, якія нічога не разумеюць ні ў справе скарыстаньня каня на гаспадарцы, ні ў вайсковай справе. Гэтым разважаньням трэба даць адпор, бо яны няправільна арыентуюць працоўную масу, служаць на карысьць нашым ворагам. Трэба ведаць, што ў замежных краінах ні аб якім зьнішчэньні каня і гаворкі няма.

Пачынаючы з 1913 году за мяжой наглядалася зьмяншэньне колькасьці коняй у выніку сусьветнай вайны.

Вось малюнак дынамікі канягадоўлі з 1913 па 1926 год (*у тысячах галоў*):

| Краіны | 1913 г. | 1923 г. | 1926 г. | % да 1913 г. | % да 1923 г. |
|---|---|---|---|---|---|
| Францыя | 3.3 4 | 2.848 | 2.894 | 87 | 102 |
| Бельгія | 267 | 243 | 250 | 95 | 103 |
| Нямеччына | 3.860 | 3.873 | 3.873 | 102 | 100 |
| Англія | 2.221 | 2.023 | 1.782 | 80 | 88 |
| ПАЗШ | 20.962 | 17.222 | 19.541 *) | 93 | 113 |
| Канада | 2.866 | 3.531 | 3.559 | 124 | 101 |

З гэтай табліцы відаць, што па ўсіх краінах з 1923 г. мы маем павялічэньне колькасьці коняй за выключэньнем Англіі. Зьмяншэньне колькасьці коняй ёсьць у Паўночна-Амэрыканскіх Злучаных Штатах, адбылося за лік павялічэньня колькасьці мулаў (помесь асла з канём).

У буржуазных краінах ідзе змаганьне за якаснага каня. Тая-ж самая Англія, напрыклад, зусім адмовілася ад гадоўлі дробных коняй („поні“), а гадуе зараз выключна чыстакроўную і высокаякасную пароду коняй. Дробных коняй (для работы ў шахтах) яна зараз завозіць з-за мяжы, у прыватнасьці з СССР.

**У Нямеччыне** наглядаецца ў апошнія гады разьвядзеньне вельмі каштоўных ліній Тракэнскай пароды каня побач з вялікім ростам высокаякасных парод цяжкавозаў.

**У Францыі,** побач з павялічэньнем колькасьці легкавых коняй Першаронскай пароды, расьце гадоўля коняй ангельска-арабскай пароды (верхавая).

**У Паўночна-Амэрыканскіх Злучаных Штатах,** побач з вялікім ростам аўтамабіляў і трактароў у

*) З іх 5.000 тысяч мулаў.

транспарце такіх вялізарных гарадоў, як Нью-Ёрк ці Чыкаго, павялічваецца скарыстаньне коняй. За 1929-30 гады, у сувязі з разьвіцьцём крызісу, з паніжэньнем цэн на прадукцыю сельскай гаспадаркі, амэрыканцы перабудоўваюць сваю гаспадарку на конную цягавую сілу, усямерна стымулюючы рост конскага пагалоўя.

Вельмі цікавы лёс каня ў нашых бліжэйшых „суседзяў“ і магчымых супраціўнікаў будучай вайны.

Так, **Польшча** за апошнія 5 год павялічыла сваё конскае пагалоўе на 20 проц. Тут наглядаецца вялізарны завоз высокакаштоўных ангельсхіх скакавых жарабцоў. Расьце і колькасьць іпадромаў, расьце скакавы спорт.

**Румынія** перагнала нават Польшчу. Тут за гэты-ж тэрмін колькасьць коняй павялічылася на 30 проц.

**Вэнгрыя** заняла месца пастаўшчыка верхавых коняй для ўсіх суседніх з ёю краін і павялічыла конскае пагалоўе на 21 проц.

**Латвія** павялічыла колькасьць коняй на 10 проц. **Літва**—на 24 проц., **Фінляндзія**, у параўнаньні з 1913 г.—на 28 проц., **Эстонія**—з 1917 году—на 30 проц.

Цікава прывесьці прыплоды злучэньня конскае цягавае сілы з трактарам у буржуазнай сельскай гаспадарцы. У буйнейшых гаспадарках Амэрыкі і Аўстраліі пры сяўбе на 100 трактароў маецца 1.800 коняй. Гэта значыць 18 коняй на трактар. Пры ўборцы ўраджаю—суадносіны іншыя: на 25 коняй прыходзіцца адзін трактар.

Найбольш выгаднымі для коннай цягавай сілы тут лічацца работы па падрыхтоўцы глебы (баранаваньне, пасеў і інш.), падвоз грузаў па прасёлачных дарогах да галоўных шосэйных дарог, плыткія пераворкі на невялікую адлегласьць і работы паблізу гаспадаркі.

Ва ўсіх буйнейшых буржуазных гаспадарках вялізарнейшую ўвагу зьвяртаюць на правільнае скарыстаньне, утрыманьне і захаваньне коняй. Арганізацыя конскай цягавай сілы тут на першым месцы, бо пры няправільнай эксплёатацыі або ўтрыманьні каня, ён, як і машына, хутка псуецца, ён ня выгадны ў гэтым выпадку для гаспадаркі.

Вось такі малюнак становішча канявой гаспадаркі ў буржуазных краінах. Факты гавораць не аб зьнішчэньні, а аб павялічэньні коняй у буржуазных краінах.

Ці магчыма пасьля гэтага думаць аб зьнішчэньні коняй у нас?

Усякія разважаньні аб зьнішчэньні коняй, у сувязі з мэханізацыяй нашай гаспадаркі, зьяўляюцца шкодніцкім, іграючымі на руку ворагам нашай краіны, ворагам пралетарыяту.

## Да суровай адказнасьці шкоднікаў канягадоўлі

Партыя і ўрад увесь час гавораць аб неабходнасьці павялічэньня конскага пагалоўя і, галоўным чынам, пра палепшаньне яго якасьці.

На апошніх пленумах ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б зьвяртаецца ўвага канягадоўлі і конскай цягавай сіле. Са ўсёй выразнасьцю аб ацэнцы каня гаворыцца ў пастановах XVI зьезду партыі і VI зьезду Саветаў СССР. Урадам, як Саюзным, так і Беларускім, выдана шмат канкрэтных і катэгарычных пастаноў. ЦКК УсеКП(б)—НК РСІ СССР у сакавіку 1930 году проста гаварылі аб неабходнасьці прыняцьця жорсткіх мер супроць тых, хто зьнішчае каня, хто дапускае зьнішчэньне, хто агітуе за зьнішчэньне.

Зараз ЦВК і СНК СССР выдалі новую катэгарычную пастанову аб забароне забою коняй. Згодна гэтай пастановы забой дапускаецца кожны раз з асобага дазволу ветнагляду і выдаецца гэты дазвол толькі ў выпадку поўнай няпрыгоднасьці каня для скарыстаньня ў гаспадарцы. За забой каня без адпаведнага дазволу ці за псаваньне каня, якое давяло яго да няпрыгоднасьці, райвыканкомы абавязаны накладваць у адміністрацыйным парадку штрафы ў разьмеры да дзесяцікратнай каштоўнасьці каня. У кулакоў, акрамя таго, канфіскуецца ўся маючаяся ў іх жывёла.

Незалежна ад штрафа і канфіскацыі, кулакі і прыватныя скупшчыкі прыцягваюцца да суровай адказнасьці, пры чым суд прыгаварвае іх да пазбаўленьня волі тэрмінам да 2-х год. Гэта для аднаасобнікаў.

У тых-жа выпадках, калі зьнішчэньне каня адбываецца ў калгасе, саўгасе, МТС, ці ва ўстанове, або арганізацыі,—вінаватыя прыцягваюцца да судовай адказнасьці і прыгаварваюцца судом да пазбаўленьня волі тэрмінам на 1 год. За злачынна нядбайныя адносіны да коняй, асабліва да жарэбных матак у сацыялістычным сэктары народнай гаспадаркі, калі такія адносіны пацягнулі за сабою гібель, ці правядзеньне ў нягоднасьць каня,—вінаватыя прыцягваюцца таксама да крымінальнай адказнасьці і прыгаварваньня да прымусовых работ на 6 месяцаў. Калі нядбайныя адносіны наглядаюцца неаднаразова, сыстэматычна,— кара павялічваецца да пазбаўленьня волі тэрмінам да 3 год.

Гэтую зусім сваячасовую пастанову трэба праводзіць у жыцьцё цалкам і поўнасьцю са ўсёй жорсткасьцю.

У нас да гэтага часу наглядаюцца выпадкі проста абураючага характару. У апошніх нумарох „Зьвязды“, „Калгасьніка Беларусі“, „Савецкай Беларусі“ і ў некаторых раённых газэтах зьмяшчаюцца заметкі селькораў, якія сьведчаць аб злачынных адносінах у многіх раёнах да каня.

Абураючы прыклад знаходзім мы ў артыкуле т. Войнава („Зьвязда“ № 238): „Па калгасах раёну (Копыльскага), наглядаецца масавае разбазарваньне конскай цягі. У некаторых мясцох яно перарастае ў простае шкодніцтва (калгас „Чырвоны май“). На наша запытаньне, чым тлумачыцца такое масавае разбазарваньне конскай цягі, некаторыя старшыні калгасу адказалі: „Такую дырэктыву даў райкалгассаюз“.



Далей „Зьвязда“ прыводзіць і самую „дырэктыву“: „Для забесьпячэньня ўвесну 1932 году калгасаў цягавай сілай, неабходна пакінуць у кожным калгасе рабочых коняй, старэй 4-х год, з разьліку на 6 *га* пахаці аднаго каня. Недахоп цягавай сілы будзе папоўнен шляхам перакідкі з іншых калгасаў, а лішкі перададзены загатоўчым арганізацыям“.

Такая „дырэктыва“, зразумела, дала повад для масавага разбазарваньня коняй.

Па Крупскаму раёну таксама наглядаецца забой коняй. Так у калгасе вёскі Ст. Дзянісавічы, Шынгоўскага сельсавету забіты 2 коняй. Зроблена гэта без дазволу вэтурача.

Вось некалькі прыкладаў, якія сьведчаць аб шкодніцтве ў канягадоўлі і, значыць, у калгасным руху. Бо зьнішчэньне каня—гэта ўдар па арганізацыйна-гаспадарчаму ўмацаваньню калгасаў, гэта падрыў нашай сельскай гаспадаркі.

**Ліквідацыя абязьлічкі—асноўнае ў захаваньні каня**

Аднак мала таго, што пакласьціся на жорсткія меры ліквідацыі шкодніцкага ўплыву кулацкіх элемэнтаў у справе канягадоўлі. Трэба ўзяцца за растлумачальную справу, бо пакуль маса калгасьнікаў і рабочых калгасаў і МТС не зразумеюць вялізарнага значэньня каня ў гаспадарцы і ў абароне краіны, пакуль самі масы ня возьмуцца за барацьбу са шкоднікамі, якія працуюць на руку ворагам, датуль патрэбных вынікаў мы не дасягнем. У калгасах, саўгасах і МТС трэба ўкласьці пэрсанальную адказнасьць за каня.

**Ліквідацыя абязьлічкі ў скарыстаньні конскай цягавай сілы—галоўнае ў захаваньні каня. Прымацаваньне каня да калгасьніка павінна быць праведзена на справе і зараз-жа.**

Прымацаваньне кожнага паасобнага каня да паасобнага калгасьніка ня менш, як на год—вось што неабходна. Калгасьнік павінен асабіста адказваць за свайго каня, ён павінен на кані працаваць, карміць яго ўдзень і здаваць яго на ноч таксама аднаму асабіста адказнаму конюху. Конюхі, якія павінны вызначацца з лепшых калгасьнікаў ці рабочых, павінны заставацца конюхамі на неабмежаваны час, на ўвесь час, пакуль яны знаходзяцца ў калгасе ці саўгасе. І кожная група коняй (10—12) прымацоўваецца да конюха таксама на ўвесь час.

Пры такой сыстэме конюх і калгасьнік будуць контраляваць адзін другога, сачыць, каб кожны добра даглядаў за канём.

Лепшых калгасьнікаў па догляду каня трэба прэміраваць.

Для правільнай арганізацыі конскай цягавай сілы неабходна чоткае плянаваньне яе. Пляны па скарыстаньні цягавай сілы павінны складацца, як і па ўсёй гаспадарцы, на год. Акрамя гэтага трэба мець пляны на кожную сельскагаспадарчую кампанію (веснавая сяўба, уборка і г. д.) і месячныя і дэкадныя для кожнай брыгады.

Пры складаньні плянаў трэба ўлічваць ня толькі колькасьць і становішча коняй, жаробасьць матак, часовы выхад з строю жарабцоў пасьля кастрацыі, падсосны пэрыяд, уцягненьне маладняка ў работу і г. д. У першую чаргу пры плянаваньні трэба ўлічваць работы найбольш тэрміновыя і работы, якія патрабуюць больш цягавай сілы. Але-ж у пляны неабходна ўводзіць і ўсе дробныя работы, каб усё было прадугледжана.

Вельмі важнае пытаньне—гэта здароўе каня. Не гаворачы ўжо аб належным абсталяваньні і ўцяпленьні стайняў, кармленьні па нормах, чыстцы і інш., трэба наладзіць сталы нагляд за ўсімі конямі. Пэрыядычна, па некалькі разоў у год, трэба ўсіх коняй праводзіць праз дэталёвы вэтэрынарны агляд. Кармленьне коняй неабходна ўзгадняць з вэтэрынарам.

**М. Хаванскі.**

# Абязьлічка—вораг каня

„Конская цягавая сіла ў народнай гаспадарцы мае вялізарнае значэньне“—сказаў аб'яднаны Лістападаўскі пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б.

І прапанаваў Наркамзему і райвыканкомам поўнасьцю выканаць пастанову ЦК і Саўнаркому аб разьвіцьці ў БССР канягадоўлі. 1 мільён 39 тыс.—конскага пагалоўя. З іх рабочых коняй—754 тысячы.

Асаблівая ўвага павінна быць зьвернута на якаснае палепшаньне канягадоўлі.

Абязьлічка—губіць калгаснага каня. Абязьлічка—вораг веснавой сяўбы. Кулацкая дапаможніца. Змаганьне за моцнага калгаснага каня—гэта ў першую чаргу змаганьне **за ажыцьцяўленьне шасьці ўмоў таварыша Сталіна** ў прыстасаваньні да канягадоўлі.

Але-ж у радзе калгасаў гэтага да сёнешняга дня не разумеюць. У радзе калгасаў абязьлічка пануе ва ўсю і разам з апартуністычнай недаацэнкай каня вядзе да разбазарваньня конскага пагалоўя. У калгасе **„Дабраволец“**, Капыльскага раёну, да коняй ня прыстаўлены сталыя людзі, няма начнога вартаўніка, стайні не падрыхтаваны да зімы, няма падсьцілу, кармы ў безгаспадарчым становішчы. З самай вясны коні бяз усякага догляду і бяз усякага ўліку ў калгасе імя **Фрунзэ**, Полацкага раёну. Ніхто ня ведае колькі коняй, і дзе яны. І калі трэба было ў свой час выканаць абавязак перад дзяржавай—здаць хлеб і іншыя прадукты па загатоўках, у калгасе імя Фрунзэ адбылася затрымка: не на кім вазіць, а рабочых коняй—дастатковая колькасьць. Толькі гэтыя коні як вецер гуляюць у полі. У калгасе імя **Будзённага,** Койданаўскага раёну, абязьлічка прывяла да таго, што коні пакалечаны, заеджаны і нямала з іх загінула.

Магчыма было-б прывесьці яшчэ ня мала прыкладаў, калі абязьлічка выводзіць калгаснага каня са строю, калі яна дапамагае кулаку ў яго спробах падарваць апору калгасу—калгаснага каня.

— Коням няма чаго рабіць, бо ў нас ёсьць МТС,—кажуць кулацкія падгалоскі ў калгасах **Сеньненскага** і **Капыльскага** раёнаў.

Гэтыя шкодныя разважаньні магчыма пачуць і ў іншых мясцох БССР.

Чым іншым як не апартуністычнай недаацэнкай калгаснага каня тлумачыцца тое, што ў **Капыльшчыне** налічылі шмат лішніх коняй і шукалі—куды б іх перадаць? Чым іншым як не дапамогай кулаку зьяўляецца тое, што калгас **„Папоўка“** Сеньненскага раёну з маючыхся ў яго 30 коняй, выбракаваў 10, а камісія прызнала гэтых коняй годнымі на службу пяцігодцы?

**— „Конская цягавая сіла ў народнай гаспадарцы мае вялізарнае значэньне!“**

Кожны райком КП(б)Б, кожная парт'ячэйка, на аснове гэтай дырэктывы КП(б)Б, павінны разгарнуць бальшавіцкую барацьбу з апартуністычнай недаацэнкай каня. Райвыканком, сельсаветы, праўленьні калгасаў павінны рашуча змагацца з выпадкамі шкодніцкай выбракоўкі коняй, драпежніцкага забою іх, з разбазарваньнем конскага пагалоўя.

**— „Берагчы калгаснага каня, рыхтаваць яго да вясны!“**

Гэта важнейшая задача кожнага калгасу. Гэта—барацьба за моцны калгас, за посьпехі трэцяй бальшавіцкай сяўбы.

Увесну 1931 году на калгасных палёх БССР працавала да 900 трактароў. А між тым у радзе калгасаў конь меў непасільную нагрузку: Да васьмідзесяці *га*. І нават да 16!

Сяўба патрабуе максымальнага ўшчыльненьня тэрміну. Непасільная нагрузка б'е і па кані і па ўраджайнасьці. 1932 год будзе годам бальшавіцкай барацьбы за высокі ўраджай.

Гэта патрабуе:

— Вырваць з карэньнем абязьлічку ў доглядзе за коньмі, у карыстаньні імі.

— Даць рашучы адпор кулацкай агітацыі супроць калгаснага каня.

Гэта прымушае цьвёрда памятаць дырэктыву ЦК, што: „Конская цягавая сіла ў народнай гаспадарцы мае вялізарнае значэньне.

Трэба раўняцца па перадавіках канягадоўлі, якія зразумелі, што моцны конь—апора калгасу, якія стайню паставілі як ударны цэх. У калгасе **„Перамога“**, Быхаўскага раёну, абязьлічка па доглядзе за коньмі цалкам ліквідавана. Гэты калгас зьяўляецца ўзорным у пастаноўцы догляду за коньмі. Вылучаны лепшыя калгасьнікі ў брыгады. Да кожнай брыгады прымацавана пэўная колькасьць коняй. За племяннымі маткамі даглядае асобная брыгада. Племянныя маткі стаяць у асобным памяшканьні. Калгас „Перамога“ канягадоўлю паставіў у цэнтр увагі.



— Навошта вам гэтыя коні,—агітавалі кулакі, калі калгасу **„Сілач“**, Чашніцкага раёну, быў нададзены канягадоўчы напрамак. Кулакі і падкулачнікі падбухторвалі некаторых калгасьнікаў выступаць супроць пераўтварэньня гэтага калгасу ў канягадоўчы. Кулакам быў дадзены адпор. Калгасьнікі пабаявому ўзяліся за арганізацыю ўзорнага канягадоўчага калгасу. Заданьне па ўкамплектаваньні калгасу коньмі выканана з посьпехам. Адбудаваны дзьве стайні. На працу ў стайні накіранана брыгада з лепшых калгасьнікаў-ударнікаў. Да кожнага конюха прымацавана рабочых коняй 10, жарэбных матак—8. Калі на стайні былі падкулачнікі, коні па два дні стаялі бяз корму і ня поенымі.

Зараз шырока разгорнута сацспаборніцтва па лепшым доглядзе коняй.

„Сілач“ нанёс удар і абязьлічцы і кулаку. Раней у калгасе „Сілач“ прыходзілася коняй за хвост цягаць. Зараз „Сілач“ мае моцнага калгаснага каня.

Вялікую ролю ў барацьбе за моцнага калгаснага каня павінны адыграць камсамольскія ячэйкі. У гэтым напрамку дала добры пачын камсамольская ячэйка калгасу імя **Фрунзэ**, Полацкага раёну, якая вынесла рашэньне: „Сабраць усіх калгасных коняй, узяць іх на вучот“. І выканала сваё рашэньне.

Калгасны конь павінен быць выведзен з-за задворкаў.

Трэба сурова караць ня толькі тых, хто разбазарвае конскае пагалоўе, але і тых, хто садзейнічае гэтай шкоднай справе.

**Ул. Дуброўскі.**



**Уноў пабудаваны кароўнік у саўгасе Вязынь-Фаніполь**

# ПРЫКЛАД ЗІМОЎКІ ЖЫВЁЛЫ ТРЭБА ПЕРАНЯЦЬ УСІМ КАЛГАСАМ

Калгас „Свабода“, Гарадзецкага сельсавету (Рагачоўскі раён) за апошні час паказвае ўзор арганізацыйна-гаспадарчага замацаваньня. Абязьлічка ў доглядзе за жывёлай на МТФ ліквідавана. Цяпер да кожных 18 галоў коняй або да 25—30 галоў кароў прымацаваны лепшы калгасьнік-ударнік.

Кароў МТФ разьбіла на чатыры групы:

**Першая група**—дойныя каровы з ацёлам у лютым-сакавіку месяцы. **Другая**—нядойныя каровы з ацёлам у студзені. **Трэцяя**—цяляты ва ўзросьце 3-х год. **Чацьвертая**—ялаўкі, цяляты 2-х год, быкі.

Рабочая жывёла разьбіта на тры групы: **1-я група**—лепшыя коні для цяжкай працы. **2-я**—сярэднія коні для перавозкі сена і будаўнічых матар'ялаў. **3-я**—слабыя коні для хатніх работ у калгасе. Уся гэта групіроўка дае магчымасьць лепш падыйсьці да ўтрыманьня кожнай галавы жывёлы.

Як на фэрме, так і ў канюшні ўведзены сталыя нормы выпрацоўкі, работа ацэньваецца ў працаднёх ад галавы з прэміяваньнем за падвышэньне ўдойнасьці і ўпітанасьці. Корм выдаецца па вызначаных дзённых нормах.

Дзякуючы такім паляпшэньням ужо ёсьць вынікі: каровы павялічылі ўдоі малака на 12—15 проц.

Палепшыўся догляд коняй, бо кожны конюх імкнецца як найлепш пакарміць жывёлу.

Так, ліквідаваўшы абязьлічку, калгас дабіўся значных посьпехаў.

**Я. С.**

# ДА XVII ПАРТКАНФЭРЭНЦЫІ ЛІКВІДУЕМ ПРАРЫВЫ Ў МТФ

Пры калгасе „Пераможца“, Гадзілаўскага сельсавету, Рагачоўскага раёну вясной 1931 году арганізавана малочна таварная фэрма, якая ўжо мае 46 кароў і 10 штук цялят.

Фэрма зусім не правяла ніякай падрыхтоўчай працы да зімова-стойлавага ўтрыманьня стада кароў. Спэцыяльна пабудаванага кароўніка фэрма ня мае, каровы стаяць у гумне, які зусім ня ўцеплен і не прыстасаван да ўтрыманьня кароў у хляве. У сьценах ёсьць вялікія дзіркі, столі няма зусім, хлеў стаіць на водшыбе.

Яшчэ дагэтуль на фэрме пануе абязьлічка і ўраўнілаўка як у даглядзе, так і ў аплаце працы скотнікаў. Даглядаюць жывёлу лепшыя ўдарнікі, якія прыкладаюць усю энэргію, каб наладзіць працу ў МТФ.

Праўленьнем разам з калгасьнікамі яшчэ дагэтуль не распрацаваны шэсьць умоў т. Сталіна. Зараз у сувязі з падрыхтоўкай да XVII партканфэрэнцыі праўленьне і работнікі МТФ прымаюць усе захады, каб працу ў МТФ паставіць на належную вышыню.

Брыгада час. „Шл. Калект.“ **Я. Савіцкі, Я. Кулакоў, Х. Разумцова.**

# НА РАГАЧОЎШЧЫНЕ НЕДААЦЭНЬВАЮЦЬ СЬВІНАГАДОЎЛЮ

У галіне ўкамплектаваньня МТФ Рагачоўскі раён мае значныя дасягненьні. Паводле заданьня Калгасцэнтру БССР у раёне трэба арганізаваць 29 МТФ, у якіх патрэбна паставіць 1.500 галоў прадукцыйнай жывёлы. На сёнешні дзень па раёну арганізавана 30 МТФ з пагалоўем жывёты ў 1.552 штукі. Зараз усе сілы калгасаў мабілізаваны на выкананьне прынятага раёнам сустрэчнага пляну па ўкамплектаваньні МТФ 1.880 галовамі прадукцыйнай жывёлы.

Перадавым па ўкамплектаваньні МТФ зьяўляецца калгас „Равенства“, які плян укамплектаваньня перавыканаў.

Зусім інакш абстаіць справа з укамплектаваньнем СТФ. У гэтай галіне нагляд͏аецца амаль поўны правал. На 20 сьнежня 1931 г. плян укамплектаваньня СТФ сьвінаматкамі выканан толькі на 30 проц. (заданьне СТФ паставіць 4.665 штук сьвіней, а пастаўлена толькі 1.340).

Паасобныя калгасы раёну, як „Чырвоная паляна“, „Бальшавік“, „Прыбор“, „Чырвоны молат“ у выніку злачыннай бязьдзейнасьці праяўленьняў гэтых калгасаў да ўкамплектаваньня СТФ яшчэ зусім ня прыступілі. СТФ па калгасах: імя Фрунзэ, імя Молатава, „Авангард“, „Чырвоная ветачка“, „Новы сьвет“, імя Красіна плян укамплектаваньня выканалі ад 4 да 20 проц.

Першараднае значэньне ў справе разгортваньня сацсьвінагадоўлі адыгрывае і забесьпячэньне сьвіней добрым, сьветлым, чыстым памяшканьнем, а таксама належнай пастаноўкай догляду за сьвінаматкамі і парасятамі. Гэтыя мерапрыемствы яшчэ не знайшлі свайго праламленьня ў большасьці СТФ Рагачоўскага раёну. Так, у калгасе „Камінтэрн“ маецца СТФ з пагалоўем у 250 сьвінаматак, але даглядаюць іх нядбайна. Хлявы, дзе стаяць сьвіньні, халодныя, брудныя, подсьціл зьмяняецца вельмі рэдка. Бываюць выпадкі, калі па нядбайнасьці даглядчыка сьвіньням па цэлых днёх не даецца корм. У выніку гэтага сьвіньні худзеюць. Тое-ж можна сказаць і пра фэрму „Свабода“. Укамплектавана яна на 78 проц., але догляд за сьвіньнямі дрэнны. Сьвінарнікі брудныя і халодныя, ня гледзячы на тое, што матар'ял для рамонту сьвінарнікаў у свой час быў у дастатковай колькасьці. У калгасе імя Сталіна, Запольскага сельсавету, СТФ укамплектавана... 9 сьвіньнямі. У хляве, дзе стаяць гэтыя 9 сьвіней, брудна і холадна. Ад дрэннага догляду і холаду сьвіньні пачынаюць гінуць. Загадчык фэрмы Мартынаў не зьвяртае на сьвінагадоўлю ніякай увагі.

Такія адносіны да разьвіцьця сацжывёлагадоўлі нецярпімы. Райкалгассаюз, парт'ячэйкі, праўленьні калгасаў і ўся грамадзкасьць раёну павінны пабальшавіцку ўзяцца за поўнае ўкамплектаваньне СТФ і МТФ і наладжваньня належнага догляду ў іх. Вінаватых у нядбайных адносінах да разьвіцьця жывёлагадоўлі прыцягнуць да адказнасьці.

**Ал. Лугавы.**




# ШТУРМАВЫ ДЗЕНЬ

*Апавяданьне Янкі Скрыгана.*

*Малюнкі Г. Е. Змудзінскага.*

* * *

З палавіны рабочага дня стала ясна, што на заводзе будзе прарыў. У механічным здарылася нейкая няўпраўка, дэталі ў зборачны цэх падаліся позна і праз гэта зборка сіласарэзак ня выканае нормы аж на восем машын. Начальнік зборачнага цэху Белабжэцкі ўзнэрвована бяжыць у мэханічны, але Дрыц нічога ня можа памагчы—факт несваячасовае падачы дэталяй ужо адбыўся.

Белабжэцкі зноў у сваім цэху. Каля яго зьбіраюцца брыгадзіры і—нават па тым, як вяла ападаюць іхнія рукі—відаць, што ім нядобра ісьці сёньня з заводу. Графік выкананьня заданьня сёньня апусьціцца. За адзін сёнешні дзень Гомсельмаш не дадасьць васьмёх машын асноўнае прадукцыі—васьмёх сіласарэзак.

Якая складаная сыстэма, гэты завод. Усё павінна быць дакладна, адно да аднаго—вылічана, праверана—як гадзіньнікавы мэханізм. І калі дзе парушыцца гэты мэханізм—перабой пачуе ўся сыстэма, тарганецца ўвесь арганізм заводу. Вось недзе ў мэханічным парушылася гэтая сыстэма і на зборцы адразу паднялася тэмпэратура. Спрэс тузаніна. Трэба брыгады зьнімаць з сваіх месцаў. Трэба тасаваць, перакідаць людзей на чужыя працэсы—падганяць, выроўніваць, сточваць парваны паток. А паток не даецца, тармозіцца непададзенымі дэталямі, і на выпрабавальнай станцыі, пад маторы становяцца апошнія машыны са зборкі.

— А можа—выцягнем?

Гэта падаў голас брыгадзір другое брыгады, Лейкін. Па тым, як скоранька зірнуў на яго Белабжэцкі, відаць было, што ён зразу дагадаўся пра што гаворыць Лейкін. Гэта было адзінае выйсьце з сёнешняга дня. Белабжэцкі сам пра гэта думаў, але першым не хацеў сказаць, ня ведаючы, як паглядзяць на гэта брыгады.

— Папраўдзе.

— Нашы брыгады згодны,—падцьвердзілі іншыя брыгадзіры.

— А Саранчук?

Памаўчалі.

— Папрабуем. Можа што і выйдзе,—заключыў падумаўшы Каган, і брыгадзіры разышліся да сваіх брыгад.

Гудок на канец рабочага дня. Тры першыя брыгады зборачнага цэху не скрануліся з месца, стоячы на сваіх працэсах работы. Яны **усе вырашылі сёньняшні дзень узяць штурмам.**

Але брыгадзір першае брыгады, Саранчук, насторожваецца. Гудок, і ён ведае: яго брыгада можа сарваць. У яго новая брыгада, у ёй багата прагульнікаў ды сымулянтаў і з імі ваяваць будзе цяжка. Вось Калянскі падымае ўжо рыжую галаву, заўважвае, што ўся зборка не пакідае работы, і гаворыць:

— Дык што гэта—зноў штурмаваць? Даволі. Я свае сем адпрацаваў і магу пайсьці,—гаворыць ён так, каб яго пачула ўся брыгада.

Калянскі ўжо складае струмант. На яго глядзіць Фуляй, і, ня ведаючы, што яму рабіць—пайсьці ці астацца—перапяразвае папружку.

— А ты ж куды, Гусінаў?



Ад гэтага запытаньня Гусінаў як-бы пужаецца, але, забіраючы шабру, гаворыць праз фальшывую ўсьмешку.

— Я? Дахаты. Была-ж сырэна,—падкрэсьлівае ён апошняе слова, каб даць знаць, што ён знарок ня хоча астацца.

Рэшта брыгады астаецца на месцы. Гусінаў выцірае рагожынаю рукі і пальцы ў рагожыне трасуцца.

— А крычаць, што ім дораг завод. Ім даражэй лыжка капусты,—заўважвае рабочы з брытаю галавою, бяручы на шаброўку новую раму.

У Гусінава таргханулася рука ў рагожыне. Нашто яму гавораць пра капусту і пра завод? Успыхвае злосьць, але за яго адказвае Калянскі.

— Канешне. Бо мы адпрацавалі свае гадзіны. Кончылі, і няма чаго дапікаць. Пляваць я хачу на ваша...

— Ну і плюй! Толькі ідзі, каб не замінаць.

Саранчук трывожыцца. Ня добра падымаць спрэчкі на рабоце.

— Хлопцы! Ніхто нікога не прымушае аставацца. Калі хочаш—памажы, калі хочаш—ідзі, і не перашкаджай другім. Давайце, хто хоча, каб не марудзіць.

— Можаш ісьці,—крычыць нехта з канца брыгады і ў Гусінава яшчэ больш накіпае злосьць. Адным махам рагожына ляціць у куток і ён порстка скідае рабочы гарнітур.




— І пайду, і ты мне нічога ня зробіш, бо я сваё адслужыў. Ну, хто хоча, хадзем!.. Я свой сацыялізм яшчэ пабудую,—гаворыць ён ужо каля варот, наганяючы Фуляя і Калянскага.

Брыгады стаяць на сваіх працэсах. Грукаюць малаткі, шоргаюць напільнікі—сточваецца парваны паток. Спрачаючыся, Саранчукова брыгада адстала і заўзята налягла на работу, каб нагнаць парушаны канвэер. Па цэху маячыць шкураная шапка Белабжэцкага, паказваючыся там, дзе трэба даваць тэхнічную дапамогу.

У канцы цэху, гудам матораў, зноў ажыла выпрабавальная станцыя. Гэта апошні працэс машыны, прашоўшы праз які, яна атрымлівае права на бытнасьць. Тут трэба добра праслухаць машыну. Трэба дакладна праверыць кожны круток, кожны падшыпнік, шасьцёрку, перадачу, злучэньне і, калі машына здаровая — паставіць кантрольны нумар, як пашпарт на права службы чалавеку. І тады машыне трэба ехаць дарогамі, цягнікамі—праз кілёмэтры, праз вакзалы перапынкаў—і недзе, паводле маршруту, суняцца, каб стаць на гэтую чалавечую службу—на службу сацыялістычных палёў. Машына жыве жыцьцём службы. Але чалавеку трэба яе праверыць, каб даць пашпарт машыне на гэтае права.

...Вышаўшы з заводу Гусінаў зьменшвае крок. Яго сябры адышлі ўжо далёка наперад, а ў Гусінава ўнутры пачынае торгацца нейкая нэрва так, як там, у цэху торгаліся ў рагожыне пальцы... Ён, здаецца, пагарачыўся. Не падумаў. Не астаўся, ды яшчэ і накрычаў. Уся зборка глядзела. Як дэзэртыр усёроўна... Нядобра зрабіў...

Гусінаў зьменшвае крок. Падымаючы пыл, міма праімчаў грузавы аўтамабіль. За вуліцаю, за мосьцікам пазвоньвае буфэрамі чыгунка. Недзе чутны паравозныя сьвісткі, сыгналы. На земляной пляцформе, да якое падбягаюць рэйкі, стаяць сіласарэзкі, сячкарні, бульбасартоўкі, бульбамыйкі гуляючы на сонцы сьвежаю афарбоўкаю. Машыны чакаюць вагонаў, каб, упакаваўшыся ў іх, ехаць—праз кілёмэтры, праз вакзалы перапынкаў—ехаць паводле пашпарту на службу чалавеку—на службу сацыялістычных палёў.

Гусінаў сунімаецца і пальцы пачынаюць нэрвова перабіраць нешта ў кішэні. Скрынка запалак. Скрынка сьціскаецца, патрэсквае, перакошваецца. Вось яна ўжо гатова зламацца, але пальцы зноў яе выпускаюць... „Ч-чорт, пагарачыўся!..“ І раптам: пальцы ўядаюцца, скрынка ломіцца з хробустам і Гусінаў рыўком варочаецца. Напрасьцяк цераз двор ён ідзе назад у цэх.

У цэху сточваецца парваны паток. Цэх грукаціць гулам работы. Падышоўшы да рабочага, які пытаўся ці льга паставіць дэталь, бо ў яе на парожнім баку невялікі гарбок, Белабжэцкі памагае яму і сам ставіць раму на сабраны ход. Да Саранчука падыходзіць майстра Сімковіч і таму, што Саранчук рукавом выцірае распараны лоб — Сімховіч ашчэрвае белыя рэдкія зубы, і гаворыць:

— А ўсё такі—выцягнем!

---

А ўвечары Белабжэцкі і Сімховічам наклейвалі графік дзённага выкананьня і графік падняўся на трыццаць восем градак—на тры машыны звыш дзённае нормы.




*Верш* *ТАРАСА ХАДКЕВІЧА.*

*Малюнкі Г. Е. ЗМУДЗІНСКАГА.*

**Г**уляе сьцюжа на палёх,
шалее, пеніцца завея.
Сьнег падае.
Ня сьнег, а лёд.
Ільдзінкі зьмешаныя
з ветрам.

**Я**к здань якая ўначы,
яна злуецца, стогне, вые,
кідае на адхон лагчын
свае ахрапкі сьнегавыя.

**І** слухаючы гэты гам,
узрывы замяці сярдзітай,
ля гаю задрамаў калгас,
мяцельным
подыхам спавіты.

**Б**удынкі нізка нахіліў
да бела-срэбраных
пагуркаў.
Над ім імкне вятроў разьліў
і пошчак
тонаў мілагучных.

**Н**авокал—пуста. Ноч плыве
І толькі пад начным туманам
адзін блукае чалавек
каля будынкаў
задрамаўшых.

**Н**я сьпі,
калгасны вартаўнік!
ня вер мяцельным
шэрым зданям!
Агонь варожасьці ня зьнік
і вораг твой
яшчэ ня здаўся.

**В**унь, бачыш?..
абмінуўшы плот
і страхі ночы адагнаўшы
туляецца хтось ля вуглоў,
як воўк, як зьвер які
загнаны.

**Н**я сьпі!
Вунь... бачыш? чалавек,
табой сюды не падазваны,
стаіўшыся, як дзікі зьвер,
застрэшша
газай аблівае.

**І** потым раптам...
трэск і звон,
агня шалёныя ўзмахі
абнялі ярка скотны двор
пажарам,
сьцюжай нястрыманым.

**І** потым
шэраньню завей
і змрокам бунтаўлівай ночы
нязваны нікне чалавек
хадою няпрыкметнай,
воўчай.

**А**буджаны палёт вятроў
падхоплівае сноп агнёвы
і адганяе лёгкі змрок
зарой узьнікшай,
каляровай...

**Т**акой вось ноччу
з мэтай злой,
калі завеі загавораць,
туляецца каля вуглоў
закляты
клясавы наш вораг.

**Т**аму ня сьпі. Пільней сачы
за крокам воўчым,
асьцярожным,
каб злыдзень гэты і ўначы
будынкаў нашых
ня трывожыў.

26 сьнежня 1931 г.

# ІЛЬНАВАЛАКНО—САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ ПРАМЫСЛОВАСЬЦІ

## У апрацоўцы і здачы ільнавалакна раўняцца па калгасах „Новы Сьвет“ і „Ленінскі прамень“

Нарыхтоўцы ільну і пянькі па Полацкаму раёну асобныя калгасы і сельсаветы не надалі належных баявых тэмпаў, вынікам чаго зьявілася тое, што на 15 сьнежня плян выканан усяго толькі на 20,7%.

Па Варонецкаму, Мала-Сітнянскаму, Гарадоцкаму сельсаветах ільнаапрацоўка і нарыхтоўкі ільну прадстаўлены поўнаму самацёку.

Па Мала-Сітнянскаму сельсавету хаця брыгады і арганізаваны, але на 15 сьнежня калгасамі сельсавету ня здадзена ніводнага кілё ільну,—брыгады, амаль не працуюць. Гэта сьведчыць аб тым, што сельсавет не зьвярнуў належнай увагі на выкананьне дырэктыў ураду па ільнапрацоўцы.

Калгас „Ульянаўка“, Варонецкага сельсавету, толькі цяпер прыступіў да апрацоўкі ільнатрасты. Праўленьне гэтага калгасу развашае: „Мы яшчэ справімся з апрацоўкай—зіма вялікая“.

Апрацоўка ільну ў калгасе „Труд“ праходзіць адной ільнамялкай, а засеяна было 75 *га*. Трапаньне яго праходзіць яшчэ горш, бо на працу выходзяць толькі 30 проц. жанчын-калгасьніц, а іх у калгасе ёсьць да 150 асоб. Зьдзельшчына існуе толькі на паперы, сацспаборніцтва і ўдарніцтва не разгорнута—ад чаго і апрацоўка ільну марудная — за дзень ня больш 20 кілё.

Пры наяўнасьці такой вялікай колькасьці трасты ў калгасе і пры такіх тэмпах работы, прыдзецца апрацоўваць лён цэлы год.

Значная частка калгасьнікаў занята апрацоўкай свайго ўласнага ільну ў першую чаргу.

Гарадоцкі сельсавет мае 2 вялікія ільнаводчыя калгасы. У калгасе імя Фрунзе было пасеяна 130 *га* лёну і да 15 сьнежня 1931 году ім яшчэ не здана дзяржаве ніводнага кілё лёну, апрацоўка толькі што наладжваецца. І ўсё гэта робіцца пад бокам сельсавету. Сельсавет па апартуністычнаму адносіцца да гэтае справы.

Яшчэ горш абстаіць справа ў калгасе „Камінтэрн“ дзе частку ільнатрасты згнаілі.

Калгасы Руднянскага сельсавету „Новы сьвет“ і „Ленінскі прамень“ апрацоўку ільну і здачу яго дзяржаве закончылі да 10 сьнежня 1931 г. Гэта сьведчыць аб тым, што гэтыя калгасы сапраўды па баявому арганізацыяй брыгад і зьдзельшчыны скончылі апрацоўку ільну. Тут партарганізацыя і сельсавет сваячасова разгарнулі працу сярод калгасаў па апрацоўцы ільну.

Партарганізацыям адстаючых сельсаветаў патрэбна вопыт лепшых калгасаў раёну перакінуць туды, дзе гэта справа заняпала. Праз увядзеньне прагрэсыўна-нарміраванай аплаты і спаборніцтва паміж калгасамі і калгасьнікамі неабходна арганізаваць усю калгасную масу на апрацоўку ільну, каб як найхутчэйчэй здаць (прадаць) дзяржаве лён, чым забясьпечыцца бесьперабойная работа сацыялістычнай прамысловасьці.

**Л. С.**

# ПАШТОВАЯ СКРЫНКА

**Снытко Ю.** (Вузьдзенскі раён)
Матар'ял ваш атрымалі. Зьмясьцім у бліжэйшых нумарох часопісі. Пішэце як ідзе падрыхтоўка да веснавой сяўбы па вашаму раёну.

**Кузьмянку і Зайцаву** (Мазырскі раён)
Ваш допіс „Даманавіцкі сельпартком у баку ад барацьбы за арганізацыйна-гаспадарчае замацаваньне калгасаў ня пойдзе. У вас надта ўжо агульныя развважаньні ў некаторых мясцох і вельмі мала канкрэтнасьці. Пішэце аб працы партячэек, прыводзьце факты, прыклады барацьбы ячэек і асобных комуністаў за арганізацыйна-гаспадарчае замацаваньне калгасаў.

**Гуру Г.** (Шклоўскі раён).
Допіс „Умацаваньне калгасаў—наша задача“ і „Папярэдняе разьмеркаваньне ўраджаю“ ня пойдзе, агульныя разважаньні, няма канкрэтнасьці. Пішэце больш канкрэтна, прыводзьце асобныя факты, прыклады.

**Новікаву Я.** (Полацкі раён).
Ваш допіс аб калгасе „Барацьба“, Новабрашчанскага сельсавету перададзен у газэту „Калгасьнік Беларусі“

**Алану Д.** (Магілеўскі раён)
Допіс ваш „Шляхам перамогі“ для часопісі не падыходзіць, перадалі ў газэту „Калгасьнік Беларусі“.

**Шымакоўскі В.** (Бягомльскі раён).
Дасланы вамі допіс „Зьдзельшчына дае ўсё“ перададзен у газэту „Калгасьнік Беларусі“. Шлеце матар'ял аб падрыхтоўцы да веснавой сяўбы.

**Савіцкаму Я., Разумцову Х.** (Рагачоўскі раён).
Матар'ял аб укамплектаваньні МТФ і СТФ надрукаваны ня будзе. Вельмі агульна напісана, не паказана на канкрэтных фактах што-ж усё такі зроблена ў галіне разьвіцьця сацыялістычнай жывёлагадоўлі па вашаму раёну і няма канкрэктнасьці ў чым выяўляюцца недахопы ў рабоце МТФ і СТФ. Пішэце больш канкрэтна, падавайце факты, прыклады.

**Камуннаму М.** (Полацкі раён).
Ваш артыкул „На фронце бальшавіцкіх перамог“ перададзен у газэту „Калгасьнік Беларусі“. Дасылайце матар'ял аб падрыхтоўцы да веснавой сяўбы.

**Адказныя рэдактары:** **С. МІЦЬКОЎ.**
**Н. МІХАЙЛАЎ.**


Друкарня імя Сталіна. Заказ № 66, 1900 экз. Упаўнаважаны галоўлітбелу № А—2.

# УСЕСАЮЗНАЯ ПРАВЕРКА ЗАВЯРШЭНЬНЯ ХЛЕБАЗАГАТОВАК І ПАДРЫХТОЎКІ ДА ВЕСНАВОЙ ПАСЕЎНАЙ

## Усім рэспубліканскім, краявым (абласным) КК-РСІ і прадстаўніцтвам рэдакцый „Правды“ і „Соц. земледелия“

## Усім раённым КК-РСІ, рэдакцыям раённых, сельскіх газэт

Цэнтральнай задачай надыходзячай веснавой сельска-гаспадарчай кампаніі зьяўляецца барацьба за павышэньне якасных паказчыкаў па сельскай гаспадарцы ў калгасах, МТС і саўгасах. Аўладаньне агратэхнікай і павышэньне ўраджайнасьці, павялічэньне таварнай прадукцыі, найбольш эфэктыўнае выкарыстаньне трактароў і машын і інш. якасныя паказчыкі сельскай гаспадаркі ў 1932 г. павінны быць выкананы на аснове далейшага арганізацыйна-гаспадарчага замацаваньня калгасаў, перабудова работы саўгасаў і ажыцьцяўленьня ў рабоце іх 6-ці ўказаньняў тав. Сталіна.

Гэтым задачам павінна быць падпарадкавана ўся падрыхтоўчая работа да веснавой сяўбы 1932 г.

ЦКК РСІ сумесна з рэдакцыямі „Правды“ і „Соц. земледелия“ праводзіць масавую праверку ўсёй работы па падрыхтоўцы да веснавой сельска-гаспадарчай кампаніі. Для гэтага арганізуецца з 20 па 25-га студзеня на мясцох усесаюзны рэйд ударнікаў друку сумесна з органамі КК-РСІ.

Праверка падрыхтоўкі да вясны павінна быць сканцэнтравана на наступных асноўных пытаньнях.

1. Поўнае завяршэньне збожжазагатоўчай кампаніі: плян павінен быць выканан усімі калгасамі, усімі саўгасамі і ўсімі аднаасобнікамі.

2. Агратэхнічныя мерапрыемствы да веснавой сяўбы: збожжаачыстка, падрыхтаванасьць мінэральных угнаеньняў, гною, сьнегазатрыманьне, увядзеньне севазвароту, адбор гатункавага насеннага матар'ялу і гатункаабмен, тэрміны сяўбы ў адпаведнасьці з умовамі агратэхнікі і г. д.

3. Падрыхтоўка трактарнага парку і с-г інвэнтару: ход рамонту трактароў і прасьцейшага с.-г. інвэнтару саўгасаў і МТС, якасьць рамонту, разгортваньне рамонтных майстэрняў і арганізацыі працы (гаспадарчы разрахунак, зьдзельшчына, арганізацыя працы, ліквідацыя абязьлічкі), мабілізацыя ўнутраных рэсурсаў, выраб і снабжэньне запаснымі часткамі, завоз гаручага ў глыбінныя пункты.

4. Падрыхтоўка жывой цягавай сілы. Ліквідацыя абязьлічкі па наглядзе за рабочым канём, забясьпечанасьць кармамі і падрыхтоўка фуражных фондаў да вясны, падрыхтоўка збруі да вясны, арганізацыя вэтсанкагляду.

5. Вытворчыя пляны саўгасаў і калгасаў: ход складаньня вытворча-фінансавых плянаў, адпаведнасьць пасеўных плошчаў плянам, давядзеньне плянаў да аддзяленьня і брыгады, падрыхтоўка насенных фондаў у саўгасах і калгасах, загатоўка насеньня траў і гароднага насеньня.

6. Падрыхтоўка кадраў: брыгадзіраў, паляводаў, трактарыстаў, вучотчыкаў, арганізатараў працы і г. д.

7. Выкананьне 6 указаньняў тав. Сталіна ў рабоце саўгасаў. Пры гэтым асабліва праверыць заключэньне дагавароў саўгасаў з калгасамі на вылучэньне рабочай сілы, арганізацыю аддзяленьняў саўгасаў, работу па ліквідацыі ўраўнілаўкі і абязьлічкі і г. д.

Пры праверцы неабходна асаблівую ўвагу зьвярнуць на арганізацыю ўдзелу мас у падрыхтоўцы да веснавой сяўбы, на разьвіцьцё сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва вакол важнейшых мерапрыемстваў веснавой сяўбы.

Неабходна ўсю работу па правядзеньню рэйду непарыўна зьвязаць з арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньнем калгасаў, з рашучай барацьбой супроць апартуністычных правых і „левых“ скажэньняў партыйнай лініі ў пытаньнях будаўніцтва калгасаў, МТС і саўгасаў.

Рэйд павінен спрыяць мабілізацыі шырокіх мас калгасьнікаў, рабочых МТС і саўгасаў на такую падрыхтоўку да веснавой сяўбы, каб можна было забясьпечыць поўнае ажыцьцяўленьне с.-г. пляну 1932 г. асабліва па павышэньні ўраджайнасьці, каб веснавая сяўба была новай ступеньню ў справе гаспадарча-арганізацыйнага ўмацаваньня калгасаў, у справе росту і ўмацаваньня МТС і саўгасаў.

**ЦКК-НК РСІ СССР.**

**Рэдакцыя „ПРАВДЫ“.**

**Рэдакцыя „СОЦ. ЗЕМЛЕДЕЛИЯ“.**

